—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
6
СНЕЖНЯ
1991 г.
№ 49 (3615)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)




9 снежня — 100 гадоў з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча. Старонкі гэтага нумара «ЛіМа» прысвечаны Максіму.

## Вочы Максіма

Стагоддзе прайшло, як у грэшны наш свет,
У край зрабаваны, гаротны, сірочы
Зляцеў, як анёл, апантаны паэт,
Глядзелі трывожна ягоныя вочы.

Ён мовіў: «Адрынь, беларус, вечны страх,
Нарэшце, сумленне сваё ты паслухай!»
Кіпела ў сухотных, збалелых грудзях,
Як грозны вулкан, сіла вольнага духу.

Стагоддзе прайшло, мы ж дасюль на крыжы,
А воля, а слава ўсё міма і міма...
І болем, якому няма ўжо мяжы,
Цямнеюць журботныя вочы Максіма.

Стагоддзе прайшло, а па нашай зямлі
Лятуць і лятуць неўтаймоўныя коні...
Ды тыя, што зноў Беларусь прадалі,
Дагэтуль не бачаць, не чуюць Пагоні.

Пад небам сваім, без чарнобыльскіх хмар,
На грунце дзядоў, што паўсталі за намі,
Спадарыня мілая, мужны спадар,
Калі ж назаўжды станем мы спадарамі!

«Народ, Беларускі Народ!
Ты — цёмны, сляпы, быццам крот...» —
І сёння праўдзівыя гэтыя словы.
Няўжо так і сыдзем ганебна на звод
Без веры ў наступнасць, без роднае мовы!..

Спакою і страху сваім не гадзі,
Бо з імі нам звацца людзьмі немагчыма...
Глядзі, беларус, каб не згінуць, глядзі
У строгія чыстыя вочы Максіма.

Сяргей ЗАКОННІКАЎ.

М. БАГДАНОВІЧ. (З групавога здымка супрацоўнікаў рэдакцыі яраслаўскай газеты «Голос». Рэканструкцыя П. Драчова і В. Ждановіча).

# Кола Дзён

Першы дзень снежня быў днём выбараў. Для Украіны гэта былі не толькі выбары прэзідэнта, але — Выбар. Украінскі народ у гэты дзень адназначна пацвердзіў незалежнасць сваёй дзяржавы. Гэта азначае, акрамя усяго іншага, што ў Саюза (СССР ці ССД — якая цяпер розніца?) няма будучыні. Незалежнасць Украіны першай прызнала Расія (праўда, выставіўшы пэўныя ўмовы). Не сёння-заўтра яе прызнае ўвесь свет. І толькі пазіцыя Прэзідэнта СССР, які звярнуўся за падтрымкай Саюза да парламентарыяў 12 рэспублік, застаецца нязменнай. Але гэта, хутчэй за ўсё, яго асабістая справа.

Прыйшоў час і Беларусі зрабіць свой канчатковы выбар. Ці разумеюць гэта ў нашым Вярхоўным Савеце?

**27 ЛІСТАПАДА**

**на закрытым пасяджэнні Дзяржсавета ў Маскве з удзелам прэзідэнтаў Арменіі і Азербайджана прынята рашэнне рэкамендаваць парламентам абедзвюх рэспублік скасаваць усе антыканстытуцыйныя акты, якія тычацца Нагорна-Карабахскай аўтаномнай вобласці.**

**28 ЛІСТАПАДА**

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіч наведаў Наваполацкі нафтахімічны комплекс. На сустрэчы з прадстаўнікамі працоўных калектываў горада і дэпутатамі абмяркоўвалася сітуацыя, якая склалася з-за недапаставак сыравіны з РСФСР.**

**29 ЛІСТАПАДА**

**У Мінск прыехаў надзвычайны і паўнамоцны пасол Францыі ў СССР Б. Дзюфурк. Ён меў гутарку са Старшынёй ВС Беларусь С. Шушкевічам, а таксама з лідэрамі парламенцкай апазіцыі БНФ.**

**30 ЛІСТАПАДА**

**Б. Ельцын і М. Гарбачоў дамовіліся на сустрэчы ў Крамлі, што Расійскі цэнтральны банк возьме на сябе забеспячэнне бюджэту і выплату зарплаты бюджэтным установам на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза.**

**У Мінску заснаваны новы рух — «У абарону вечных ідэалаў чалавецтва».**

**1 СНЕЖНЯ**

**каля 90 працэнтаў выбаршчыкаў Украіны выказаліся за незалежнасць сваёй рэспублікі на рэферэндуме. Прэзідэнтам Украіны выбраны Леанід Краўчук.**

**На выбарах прэзідэнта Казахстана Нурсултан Назарбаеў набраў амаль 99 працэнтаў галасоў.**

**Пераважная большасць жыхароў Прыднястроўя і Гагаузіі пажадала заставацца ў складзе неіснуючага Саюза ССР, прагаласаваўшы на рэферэндуме за стварэнне ўласных рэспублік. Выбраны прэзідэнт Прыднястроўскай ССР — Ігар Смірноў і Гагаузскай рэспублікі — Сцяпан Тапал. Малдова не прызнае вынікі рэферэндуму.**

**2 СНЕЖНЯ**

**вялікім канцэртам у памяшканні Дзяржаўнага цырка Беларусі быў адзначаны ў Мінску пачатак Ханукі — нацыянальнага яўрэйскага свята. Свята, якому больш тысячы гадоў, было доўгі час забаронена ў нашай краіне. Сёлета ўпершыню ў многіх гарадах была запалена менора (храмавы сямісвечнік) — галоўны атрыбут свята.**

**3 СНЕЖНЯ**

**Савет Саюза з чацвёртага заходу, услед за Саветам Рэспублік, зацвердзіў крэдыт на пакрыццё дэфіцыту саюзнага бюджэту на чацвёрты квартал у памеры 90,5 мільярда рублёў.**

**Генадзь БУРАЎКІН**

# І ЖЫВЕ СЁННЯ З НАМІ...

**Слова пра Максіма Багдановіча, сказанае на ўрачыстым вечары ў бібліятэцы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку 4 лістапада г. г.**

Усяго 25 свечак адпалала на зямным бяседным стале Максіма Багдановіча. Калі ў маі 1917 года пагасла апошняя, тоненькая і пахілая, побач не было ні сваякоў, ні сяброў і выпадковыя людзі, якія паклалі ў камяністую крымскую зямлю высушанае туберкулёзам маладое цела, не здагадваліся нават, што хавалі аднаго з выдатнейшых беларускіх паэтаў, аднаго з самых любімых сыноў нацыі.

За 25 гадоў жыцця большасць з людзей паспяваюць толькі закончыць адукацыю ды яшчэ ажаніцца або сустрэць сваю нарочную. А Максім Багдановіч за гэтыя кароткія імгненні вечнасці паспеў стаць адным з самых дасведчаных мужоў свайго часу, класікам роднай літаратуры. Народжаны ў Менску, асіpацелы ў Гродне, вывезены пяцігадовым з Беларусі, ён на доўгія гады быў адарваны ад роднай зямлі, ад матчынай мовы і бабуліных казак, ад пошуму наднёманскіх бароў і вясёлага булькатання крынічак. Вучыўся ён у Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі, каханне сваё напаткаў над матухнай Волгай, а ўсе сілы і магутны талент аддаў да астатку, да апошняй хмельнай кроплі, «краіне-браначцы» — Беларусі. Маці перадала яму не толькі невылечную хваробу, а і нязломную адданасць нацыянальнаму духу.

Склаў М. Багдановіч свае першыя вершы ў пару ўздыму шырокай адраджэнскай хвалі, калі ад мужычых палеткаў, з нізін народнага жыцця ўзнімалася да вышыняў сусветнай культуры сакалiная сям'я маладых валадароў і выказнікаў думак беларусаў — Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гарун. Як і яны, ён быў дэмакратам і рамантыкам. Як і яны, ён пакутаваў ад галечы і несправядлівасці, якія панавалі ў родным краі. Але, у адрозненне ад сваіх выдатных паплечнікаў — дзяцей вёскі, ён быў выхаванцам горада і сынам інтэлігентаў. Таму і выпала яму першаму ў нашай літаратуры прынесці ў яе індустрыяльныя матывы і адчуванні гараджаніна, натуральную знітаванасць з шматграннай агульначалавечай культурай. Менавіта ў Багдановічавых строфах годна і вольна пасялілася айчынная гісторыя з яе помнікамі архітэктуры, з летапісамі і слуцкімі паясамі, з постацямі Скарыны і ваяроў-змаганцаў. Не выпадковымі падарожнымі, не экзатычнымі гасцямі, а ўдзельнікамі агульнажыцця выглядаюць у ягоных творах Рафаэль і Рэмбрант, Геракл і Антэй, Дантэ і Моцарт. Рэцэнзія на кнігу Рабіндраната Тагора, вольнае пераймание японскіх, іспанскіх, сербскіх, персідскіх, фінскіх народных песень, пераклады Авідзія, Гарацыя, Шылера, Гейнэ, Верхарна, Верлена, Пушкіна, Шаўчэнкі былі для зусім маладога Багдановіча надзейнымі нітамі, што дапамагалі ткаць непаўторны ўзор сваіх уласных скарбаў. І тая мова, якую дзяржаўнымі актамі забаранялі магутныя паланізатары і русіфікатары, у ягоных вуснах аказвалася надзіва мілагучнай і інтэлігентнай пры пераспеве з французскай, грэчаскай, нямецкай. Якраз на ёй ён даў бліскучыя ўзоры практычна ўсіх лірычных жанраў і форм — балады, элегіі, рамансы, эпіграмы, рандо, санеты, тэрцыны, актавы, трыялеты, скерца...

Будучы да танчэйшага нерва беларусам, Максім Багдановіч заўсёды пачуваў сябе часткаю чалавецтва, часцінкаю Сусвету.

**Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы**  
**У ціхую сінюю воч**  
**І сказаць:**  
**Бачыце гэтыя буйныя зоркі,**  
**Ясныя зоркі Геркулеса?**  
**Да іх ляціць наша Сонца,**  
**І нясецца за Сонцам Зямля.**  
**Хто мы такія?**  
**Толькі падарожныя—папутнікі сярод нябёс.**  
**Нашто ж на Зямлі**  
**Сваркі і звадкі, боль і горыч,**  
**Калі ўсе мы разам ляцім**  
**Да зор?**

Гэта напісана ў 1915 годзе. Але хіба гэта не адчуванне нашага сучасніка, які зведаў радасці і цяжкасці касмічных палётаў, які жахнуўся бездані атамных катастроф і па-новаму ацаніў чалавечую дабрыню і спагаднасць?..

Так ужо здарылася, што ў Максіма Багдановіча не было кахання ў тым зямным шчаслівым разуменні гэтага слова, да якога мы прывыклі. Відаць, выбранніцы, якіх ён сустракаў на сваёй жыццёвай сцяжыне, не паспелі ў свой час ацаніць і ягонай тонкай душы і ягонага высокага чыстага пачуцця. Але затое якія бясцэнныя пярліны любоўнай лірыкі пакінуў ён нам, каб многія і многія пакаленні беларусаў шапталі іх сваім каханкам як уласныя словы прызнання! Ён і ў гэтым абсягу творчасці быў майстрам, які яднаў годнасць і прыгажосць.

**Мне доўгае расстанне з Вамі**  
**Чарней ад Вашых чорных кос.**  
**Чаму ж нядобры час прынёс**  
**Мне доўгае расстанне з Вамі?**  
**Я пабляднеў ад горкіх слёз**  
**І трыялет пачаў славамі:**  
**«Мне доўгае расстанне з Вамі**  
**Чарней ад Вашых чорных кос».**

І ўсё ж самым гарачым, самым трапяткім, самым святым пачуццём Максіма была любоў да Радзімы, да маці-Беларусі. Яна зрабіла яго паэтам, яна дала сэнс ягонаму самаахвярнаму жыццю, яна пакінула яго ў памяці нашчадкаў. І менавіта яна, як гэта ні дзіўна на першы погляд, выклікала нянавісць у ворагаў. Хаця, здавалася б, якія ворагі маглі быць у прыгожага, стройнага, сарамлівага, невылечна хворага юнака з задумнымі шэрымі вачамі? Гэта былі ворагі ягонай Бацькаўшчыны — а значыць і ягоныя. Яны спярша замоўчвалі і ўсяляк прыніжалі ягоны дар. Яны пасля валасатымі пальцамі сталінскіх інквізітараў вырывалі ягоны партрэт і ягоныя вершы са школьных падручнікаў. Яны пяліся нацягнуць на ягоныя худыя плечы суконную робу нацыяналіста. Але ён перамог, выстаяў, вытрымаў суд часу і жыве сёння з намі, малады, разумны, пявучы, сумленны, несмяротны...

Сябры пры жыцці называлі яго між сабой Максімам-кніжнікам. І думаю, у вышэйшай ступені справядліва, што ягоны соты дзень нараджэння мы адзначаем у бібліятэцы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, дзе плячо да пляча на паліцах сышліся кнігі з усіх кантынентаў. Па праву займае тут годнае месца томік Максіма Багдановіча, у якім, як ён пісаў.

**Засушыў я на паперы**  
**Краскі, свежыя калісьці,**  
**Думак шчырых і чуцця...**

Максім Багдановіч марыў, што беларуская культура панясе нарэшце свой дар усяму свету. Час гэты настаў. Мы з паклонам перадаём людству свае духоўныя набыткі — і сярод іх чыстую Максімаву песню. Бярыце — яна і ваша.

# ДОЎГІ ШЛЯХ ДА ПРЫЗНАННЯ

**У Міністэрстве замежных спраў Беларусі адбылася прэс-канферэнцыя па выніках работы беларускай дэлегацыі на 46-й сесіі Генасамблеі ААН.**

Кароткую справаздачу варта было б пачаць з пытання, якое хоць і не тычылася непасрэдна тэмы прэс-канферэнцыі, але цікавіць усіх. Гэта пытанне аб выніках рэферэндуму на Украіне. Адказваючы на яго, міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка нагадаў, што яшчэ сёлета ў верасні ўступіў у законную сілу Дагавор паміж Беларуссю і Украінай, заснаваны на ўзаемным і безумоўным прызнанні незалежнасці суверэнных дзяржаў. Тое, што зрабіла Украіна, абавязкова зробіць і наша рэспубліка, падкрэсліў міністр. Але незалежнасць, на яго думку, — гэта працэс. Шлях да яе доўгі і нялёгкі.

Што ж робіць беларуская дыпламатыя для таго, каб паскорыць шлях да міжнароднага прызнання суверэннай Беларусі? Міністр замежных спраў паспрабаваў даць разгорнуты адказ. Зараз, падкрэсліў П. Краўчанка, ААН перажывае свайго роду рэнесанс, пачынае рэальна ўплываць на ход міжнародных падзей. Адбываюцца сур'ёзныя змены ў яе дзейнасці. Днямі адбылася важная падзея: Генеральным сакратаром ААН быў выбраны егіпцянін Бутрас Галі. З першага студзеня ён заменіць на гэтым пасту Перэса дэ Куэльяра.

Беларуская дэлегацыя была надзвычай актыўнай. Яе прадстаўнікі выступілі ва ўсіх пастаянных камітэтах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. П. Краўчанка звярнуў увагу на такі прынцыповы момант. Наша рэспубліка, выплачваючы ўзносы ў ААН, ніколі не атрымлівала ад яе фінансавай дапамогі. (Для параўнання — дапамога аказвалася такім краінам, як Грэцыя, Мальта, Партугалія). Дзякуючы дыпламатычным намаганням, статус Беларусі зменіцца: цяпер яна будзе краінай — «рэцыпіентам», а не «донарам». Цяпер ужо справа нашага ўрада прадставіць праекты, пад якія могуць быць выдзелены грошы.

Важнай перамогай назваў П. Краўчанка ўключэнне Беларусі ў ЭКАСОС — эканамічны і сацыяльны камітэт ААН.

Міністр замежных спраў правёў пад час сесіі перамовы з кіраўнікамі знешнепалітычных ведамстваў многіх краін. Асабліва важнае значэнне мела сустрэча з дзяржсакратаром ЗША Дж. Бэйкерам, у ходзе якой закранаалася, у прыватнасці, пытанне аб ядзернай зброі на Беларусі. Наша рэспубліка, паводле слоў міністра, выступае за поўную яе ліквідацыю на тэрыторыі рэспублікі з удзелам беларускіх экспертаў і дыпламатаў.

У выніку перамоў з міністрам замежных спраў ФРГ Г.-Д. Геншэрам удалося вырашыць пытанне аб адкрыцці на двухбаковай аснове консульстваў у Беларусі і Германіі.

Заключана консульская канвенцыя з Польшчай, Балгарыяй, ЧСФР, Румыніяй.

Значная частка прэс-канферэнцыі была прысвечана праблемам Чарнобыля. У рабоце беларускай дэлегацыі акцэнт рабіўся не толькі на іх абмеркаванні ў ААН, але, перш за ўсё, на арганізацыі канкрэтнай дапамогі рэспубліцы. На сустрэчы з Бэйкерам удалося дамовіцца, што ЗША пачнуць дапамогу Беларусі на дзяржаўным узроўні. Рыхтуецца дастаўка медыкаментаў на спецыяльным транспартным самалёце ў дар беларускаму народу.

Як выявілася, было і ў міністра пытанне да журналістаў. На думку Пятра Кузьміча Краўчанкі, нашы газеты неаператыўна адгукаліся на знешнепалітычныя акцыі беларускіх дыпламатаў, а то і зусім нічога не паведамлялі пра іх. З гэтым папрокам можна было б і пагадзіцца, калі б хоць нехта з беларускіх карэспандэнтаў быў акрэдытаваны, скажам, у тым самым Нью-Йорку.

**Віталь ТАРАС.**

# Памятаюць Коласа на Палессі

**«Родныя малюнкі дарагога краю» — такі дэвіз мела Коласаўскае свята, якое прайшло на Лунінеччыне і было прысвечана 80-годдзю з часу знаходжання народнага песняра Беларусі ў Лунінцы. Гарадскія ўлады разам з Брэсцкім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі не пакінулі ўбаку гэты перыяд жыцця і творчасці Я. Коласа. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел пісьменнікі з Брэстчыны, Мінска, Валыні, члены мясцовага літаратурнага аб'яднання «Палессе» пры раённай газеце «Лунінецкія навіны», жыхары вуліцы Якуба Коласа ў Лунінцы, вучні гарадскіх і вясковых школ, настаўнікі.**

**На сустрэчах у Сінкевіцкай сярэдняй школе, на вечары ў Доме Саветаў свае творы чыталі Ніна Мацяш, Алесь Каско, Васіль Жуковіч, Валянціна Кукса, Мікола Пракаповіч, украінскія калегі Пятро Мах, Іван Чарнецкі, Васіль Гэй, спявалі мілагучныя песні беларускія барды Ніна Загарэўская і Алесь Паплаўскі.**

**Прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі Беларусі і Украіны пабывалі таксама ў вёсцы Люсіна Ганцавіцкага раёна. Там таксама адбыліся ўрачыстасці. Мясцоваму музею перададзены цудоўны партрэт песняра, выкананы мастаком Сяргеем Казаком.**

**А. ВЫШЫНСКІ.**

# Памяці Максіма

**Зорка Венера ўзышла**
**над зямлёю,**
**Светлыя згадкі з сабой**
**прывяла...**

На гэты раз раманс, які даўно стаў народным, гучаў у Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна, дзе праходзіў мастацка-літаратурны вечар з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча. Адкрыў і вёў вечар сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў І. Аношкін. Аб жыцці і творчасці паэта расказаў выкладчык кафедры беларускай літаратуры мясцовага педінстытута С. Украінка. Ён прачытаў і свой верш, прысвечаны памяці песняра. Творы-прысвячэнні чыталі таксама члены абласнога літаб'яднання «Прыдняпроўе» С. Дзядушка, В. Кунцэвіч, І. Пехцераў.

Навучэнцы вучылішча культуры імя Н. К. Крупскай падрыхтавалі музычна-літаратурную кампазіцыю.

Мастацка-літаратурныя вечары памяці М. Багдановіча прайшлі ў Глуску, Краснаполлі, іншых раённых цэнтрах Магілёўскай вобласці.

**А. НОВІК.**

# «На цябе надзея, край родны мой!..»

**Адкрыты ліст Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаславу Кебічу, старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Нілу Гілевічу**

Напярэдадні 100-годдзя з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча зноў, каторы раз, паўстае пытанне, каб прах таго, чый нясмяротны дух і сёння абуджае любоў да Бацькаўшчыны, быў перанесены на родную зямлю.

Неспрыяльныя ўмовы не дазволілі зрабіць гэта ні ў першыя гады бальшавіцкай ўлады, ні пасля другой сусветнай вайны. Кіраўнічая партыйная наменклатура ўсімі сродкамі супрацьстаяла ажыццяўленню гэтай акцыі, бачыла ў гэтым праявы нацыяналізму.

Мужная і рамантычная постаць паэта, які гэтак рана памёр на чужыне і да апошняй сваёй часіны жыў лёсам Бацькаўшчыны, стаіць поруч з Янкам Купалам і Якубам Коласам — тытанамі нацыянальнага духу, і прах яго, на нашую думку, мусіць знаходзіцца побач з імі.

Суверэнная Беларусь павінна, нарэшце, вярнуць свайго славутага сына туды, куды заўсёды імкнулася яго душа, павінна, нарэшце, здзейсніць ягоны запавет:

**...І толькі на цябе надзея,**
**Край родны мой!..**
**...Там хоць у гліне, хоць у**
**брудзе,**
**Там, пад зямлёй,**
**Найдуць мае слабыя грудзі**
**Сабе спакой.**

Перазахаванне славутых землякоў — звычайная практыка цывілізаваных народаў. Можна нагадаць, што яшчэ ў царскія часы адбылося вяртанне на родную зямлю мошчаў Св. Ефрасінні Полацкай, а зусім нядаўна былі забраны з Воўчына ў Польшчу астанкі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Вяртанне праху Максіма Багдановіча на Радзіму будзе садзейнічаць справе адраджэння нацыянальнай свядомасці беларускага народа. А месца на могілках Ялты, дзе быў пахаваны М. Багдановіч, павінна быць абазначана мемарыяльным знакам з адпаведным надпісам, каб у памяці народнай не згубілася гэтая апошняя трагічная сцяжынка паэта.

**Рыгор Барадулін, прэзідэнт Беларускага ПЭН-Цэнтра; Васіль Быкаў, народны пісьменнік Беларусі; Адам Мальдзіс, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў; Уладзімір Конан, доктар філалагічных навук; Міхась Ткачоў, доктар гістарычных навук; Вольга Іпатава, галоўны рэдактар газеты «Культура»; Аляксей Марачкін, мастак; Радзім Гарэцкі, акадэмік АН Беларусі; Васіль Шаранговіч, народны мастак Беларусі; Эдуард Агуновіч, мастак, заслужаны работнік культуры Беларусі; Віталь Цвірка, народны мастак Беларусі; Мікола Купава, сябра СМБ, намеснік дырэктара ММВ — усяго 62 подпісы.**

# Хроніка Адраджэння

28 лістапада ў Вільнюскім універсітэце прайшла канферэнцыя, прысвечаная юбілею Максіма Багдановіча. Наладзілі яе асацыяцыя беларусістаў у Літве і кафедра рускай літаратуры. У праграме канферэнцыі прагучалі даклады і выступы А. Лапінскене, У. Конана, А. Мальдзіса, А. Дрылінгі, Л. Хрышчановіч, Н. Непарожняй, А. Мінкіна, А. Бяляцкага, Л. Луцкевіча.

●

29 лістапада ў Мінску адбылася ўстаноўчая канферэнцыя фалькларыстаў Беларусі, у якой прынялі ўдзел навукоўцы Акадэміі навук, работнікі Беларускага фонду культуры і народнай адукацыі, члены творчых саюзаў. Канферэнцыя стварыла Асацыяцыю фалькларыстаў Рэспублікі Беларусь, сфармавала яе працоўныя органы.

●

Беларускія суполкі гуртуюцца апошнім часам у многіх месцах, і адразу ж паўстаюць праблемы з літаратурай, прэсай. Нядаўна рэдакцыя атрымала ліст з культурнага асяродка «Беларусь» у Алма-Аце. У лісце выказана падзяка і ўдзячнасць землякам, якія чынна дапамаглі асяродку кнігамі, паштоўкамі і г. д. Пералічаны, у прыватнасці, спадары А. Белы, С. Запрудскі, У. Паўловіч, У. Арлоў (Менск), А. Корбут, В. Кухта (Віцебск), А. Маўчун (Познань) і іншыя.

●

16—17 лістапада ў Полацку і Віцебску працавала навуковая нарада да 830-годдзя стварэння Лазарам Богшам крыжа для пр. Ефрасінні Полацкае. Наладзілі нараду Віцебскае абласное краязнаўчае аб'яднанне, рада Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Беларускі фонд культуры і Полацка-Віцебская праваслаўная епархія.

Акрамя багатай эстэтычнай праграмы, прагучалі й выступы А. Грыцкевіча, В. Чамярыцкага, А. Мельнікава, У. Арлова, Я. Калбовіча, С. Тарасава і іншых.

# ДЗЕЛЯ БУДУЧЫНІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**Зварот каардынацыйнай рады Беларускага згуртавання вайскоўцаў да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Выканаўчая рада патрыятычнага руху «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў», усведамляючы адказнасць за лёс Бацькаўшчыны, бяспеку свайго народа і ўлічваючы, што ў савецкіх Узброеных Сілах расце сацыяльная і палітычная напружанасць, пашыраецца карупцыя, падае дысцыпліна;

што захаванне сучаснага становішча Узброеных Сіл пагражае магчымасцю антыканстытуцыйнага перавароту і грамадзянскай вайны;

што кіраўніцтва былога СССР і саюзнага Міністэрства абароны па асабістых матывах не зацікаўлены ў карэннай вайсковай рэформе і страчваюць кантроль над сітуацыяй;

што на нашу зямлю выводзіцца значная колькасць войскаў з Усходняй Еўропы і магчымы такі вывад з Прыбалтыкі;

што ідзе стыхійны захоп маёмасці Узброеных Сіл некаторымі савецкімі рэспублікамі, ствараюцца нацыянальныя арміі;

што самыя буйныя рэспублікі — Расія і Украіна афіцыйна прызналі права кожнай з іх мець уласнае войска,

лічыць мэтазгодным прапанаваць наступнае:

1. Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь разам з парламентамі другіх рэспублік неабходна ўзяць на сябе адказнасць за правядзенне карэннай вайсковай рэформы, першапачатковай мэтай якой павінен стаць пераход ад адзіных Узброеных Сіл да аб'яднаных.

2. Дзеля правядзення вайсковай рэформы неабходна звярнуцца да другіх рэспублік з прапановай утварыць часовы камітэт міністэрстваў абароны рэспублік. Да працы ў камітэце ў якасці кансультантаў маглі б прыцягвацца прадстаўнікі Міністэрства абароны СССР.

3. Першапачатковымі задачамі часовага камітэта маглі б быць наступныя:

размеркаванне паміж рэспублікамі адказнасці за канкрэтныя вайсковыя злучэнні ці аб'яднанні;

вырашэнне лёсу стратэгічных узбраенняў, у тым ліку ядзернай зброі і флоту, фармаванне аб'яднанага камандавання стратэгічных сіл;

вырашэнне пытанняў фінансавання стратэгічных сіл;

размяшчэнне войскаў, якія выводзяцца з Усходняй Еўропы;

абарона сацыяльных і палітычных правоў вайскоўцаў, якія служаць за межамі роднай ім рэспублікі.

4. Дзеля кіраўніцтва вайсковай рэформай на Беларусі неабходна надаць Міністэрству па справах абароны рэспублікі магчымасці і механізмы вырашэння ўсіх вайсковых пытанняў.

5. Для абароны канстытуцыйнага ладу на перыяд правядзення вайсковай рэформы неабходна аператыўна сфармаваць Рэспубліканскую гвардыю Рэспублікі Беларусь.

6. Вярхоўны Савет павінен забяспечыць абарону правоў вайскоўцаў на тэрыторыі рэспублікі, а таксама правоў вайскоўцаў—ураджэнцаў Беларусі, якія служаць за яе межамі.

Беларускае згуртаванне вайскоўцаў заклікае народных дэпутатаў быць мужнымі і ўзяць на сябе ў гэты цяжкі час адказнасць за бяспеку свайго народа, за мір і спакой на нашай шматпакутнай зямлі.

# ДАПАМОЖАМ МУЗЕЮ

Баранавіцкая Рада ТБМ імя Францішка Скарыны стварае першы на Беларусі этнаграфічны музейны комплекс земляробства. Паводле задумы аўтараў, там будзе адлюстравана развіццё старадаўняй матэрыяльнай культуры беларусаў.

Час прыспешвае!

Ужо адрамантаваны і аздабляецца будынак будучага музея, збіраюцца экспанаты. Але на рэстаўрацыю млына, кузні, сядзібных пабудоў, на завяршэнне ганчарнай майстэрні патрэбны немалыя грошы. Свае сродкі Рада ўжо вычарпала. Апошнім часам мы з'яўляемся сведкамі будовы Гайнаўскага музея на Беласточчыне самаахвярнымі намаганнямі беларусаў усяго свету. Звяртаемся з просьбай да ўсіх грамадзян Беларусі, да беларусаў усяго свету дапамагчы ажыццявіць задуму. Сродкі просім пералічваць на рахунак № 100700852 у Камвестбанку г. Баранавічы ці на валютны рахунак ТБМ імя Ф. Скарыны ў Мінску № 700704 у Знешэканомбанку з адзнакай «Для музея».

# УСЕ МЫ З СУСВЕТУ

Свой чарговы вечар у Доме літаратара Беларускі фонд Рэрыхаў правёў на тэму «Чалавек і яго духоўны храм». Са словам-разважаннем аб месцы чалавека ў сусвеце, лёсе і мэтах яго жыцця выступіў старшыня Фонду А. Разанаў. Сваімі разважаннямі падзяліліся святар праваслаўнай царквы айцец Георгій і глава духоўнага ўпраўлення мусульман Прыбалтыкі, Беларусі і Калінінградскай вобласці Імам Мухтасіба Алі Хазрэт.

Гучала музыка. «Ты прыйшоў з Сусвету, да Яго і імкніся», — быццам звалі чароўныя гукі. І зноў і зноў згадвалася думка аб тым, што веры не падзяляюць людзей, а аб'ядноўваюць у адзіным імкненні да Вышэйшага.

**У. ЛОБАЧ.**

РЭПЛІКА

# Нахабства—другое шчасце?

Чарговы выпуск перадачы «Вы нам пісалі — адказваем» (26,11 г.г.) каментатар Юрый Ермалюк правёў у форме ананімнага тэлефоннага апытвання. Тэму для абмеркавання падказаў слухач: у лісце ён папракнуў вядучага за тое, што не паважае беларускую аўдыторыю, бо не карыстаецца дзяржаўнай мовай рэспублікі. Публічна прызнаць, што ты не маеш рацыі, мог бы чалавек самакрытычны і прамадушны. Ю. Ермалюк, на жаль, такімі якасцямі не валодае: ён вырашыў заручыцца падтрымкай той самай аўдыторыі, а заадно пашырыць межы гаворкі. Каб не канкрэтнай, **яго** перадачы яна тычылася, а рэспубліканскага радыё ўвогуле.

— На каком языке, по-вашему, должны вестись передачи Белорусского радио? — пытаўся ён, адвольна набіраючы гарадскія нумары.

Рэспандэнты ніякавелі, але ў большасці адказвалі адназначна, што калі гэта Беларускае радыё, то і гаварыць павінна па-беларуску.

Каментатар, не задаволены, мабыць, адказамі, «капаў» глыбей:

—А разговариваете вы на каком языке?

Размаўлялі ў большасці па-руску. Патлумачваліся, спасылаліся на звычку, на адукацыю, на пераезды.

Але і гэтага аказалася мала для «аса» радыёэфіру:

— Как вы будете жить, если везде будет введен белорусский язык?

— Выжыву як-небудзь, — памяркоўна адказала жанчына на правакацыйны захад.

І так ён, і сяк, і на меншасці спасылаўся, якія таксама маглі б мець сваё радыёвяшчанне, — польскую, татарскую, яўрэйскую (рускія ў нас чамусьці меншасцю не лічацца), аднак толькі адзін — «чысцейшы беларус», як ён сябе адрэкамендаваў, апраўдаў надзеі вядучага: пажадаў, каб перадачы вяліся па-руску.

Тут бы каментатару, апраўдваючы сваё найменне, узяць ды пракаменціраваць вынікі тэлефоннага міні-рэферэндуму. Не, ён раптам пераскочыў да наступнай тэмы, маральнай.

Маўляў, як вы лічыце, ці трэба нам сёння жыць згодна з прымаўкамі: «Хочешь жить — умей вертеться», «Не подмажешь — не поедешь», «За спасибо шубу не сошьёшь», «Нахальство — второе счастье»? Як ні прыпамінала, не змагла ўспомніць беларускіх адпаведнікаў. Відаць, няшмат у нашай мове падобных узораў «мудрасці». (Не кажу, што такімі прынцыпамі не кіруюцца.)

Адказы былі розныя, нават супрацьлеглыя, ды каментарыя мы зноў не дачакаліся. Вось і думаю: а мо гэта перадача для малодшых школьнікаў? (Ва ўсякім разе, пытанні сфармуляваны на іх узроўні). Тады тым больш патрабуюцца нейкія высновы, нейкія абагульненні.

Наконт вывадаў можна было б спытаць у старшыні Дзяржкамітэта па тэлебачанні і радыё, а таксама ў непасрэднага куратара радыё Б. Сушкевіча. Ды не станем гэтага рабіць. Ведаем: карысці мала. Так што не хвалюцейся, паважаны Ю. Ермалюк: па нашым радыё (пакуль) можна гаварыць што заўгодна...

**ЛІМАВЕЦ.**

Адам МАЛЬДЗІС

# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ НА ГАЛГОФУ

## Роздум у юбілей Максіма Багдановіча

Беларускі шлях на Галгофу вельмі падобны да літоўскага. Часам мне здаецца, што гэта адзін і той жа шлях, бо супадалі нашы ўкрыжаванні і ўваскрэсенні, бо неслі крыж адны і тыя ж або блізкія паміж сабою пакутнікі за нацыянальную справу, адкупіцелі сваіх і чужых грахоў.

Пачыналіся нашы шляхі на Галгофу таксама падобна і прыкладна ў адзін і той жа час — у другой палове XVI стагоддзя. Да гэтага народы Вялікага княства Літоўскага трымаліся сваіх традыцый, сваіх моў. Да гэтага яны дружна гуртаваліся, каб выстаяць ад заходняй і ўсходняй навалаў. Таму і вынікі былі відочныя, і сіла магутная. Таму і культура квітнела — дастаткова згадаць супольныя летапісы, Статут Вялікага княства Літоўскага, віленскія выданні Скарыны. Таму і жыла ў стагоддзях памяць пра «залаты век». Таму і меў падставы Максім Багдановіч з гордасцю ўсклікнуць:

Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

Але вось у другой палове XVI стагоддзя Вялікае княства Літоўскае апынулася ў складзе Рэчы Паспалітай. З гэтага часу, з Люблінскай уніі, хоць яна прынесла і шмат добрага, уласна кажучы, пачаліся ўсе нашы нацыянальныя бядоты, што наканаваннем працягваюцца да сённяшніх дзён. Менавіта тады інтэлектуальная эліта, магнаты, шляхта, а за імі і гараджане, адракаючыся ад свайго, сталі пераймаць чужыя мовы — польскую, нямецкую, лацінскую, затым рускую, пераймаць чужую культуру, спосаб жыцця. Менавіта тады, як вобразна выказаўся аўтар «Прамовы Мялешкі», «наша костка» стала абрастаць чужым «собачим мясом». Не абышлося тут і без біблейскіх трыццаці сярэбранікаў — іх ролю выконвалі шляхецкія прывілеі, высокія пасады пры каралеўскім і царскім дварах. Нацыянальнае адраджэнне беларускага і літоўскага народаў, якое пры іншых умовах наступіла б раней, зацягнулася на цэлыя тры стагоддзі. Народы-суседзі цярпліва неслі свае крыжы, не маючы права нават на ўласнае імя, на друкаванае слова. Але цярпліва — не значыць бяздзейсна: спакваля назапашваліся сілы для рашучага ўзыходжання. І мацункам служыла тут мастацкае слова, прыгожае пісьменства.

Першым свядома ўзяў беларускі і літоўскі крыжы на свае плечы Кастусь Каліноўскі. У яго было многа верных апосталаў — такіх, як Антанас Мацкявічус ці Францішак Багушэвіч. Яны не падзялялі народы Беларусі і Літвы, бачылі іх лёс у супольнай свабоднай дзяржаве. І калі б тады перамагло няроўнае супрацьстаянне царызму, то наш шлях да свабоды стаўся б карацейшы на якую палавіну стагоддзя. Ды побач з апосталамі былі і прадажныя Іуды. Правіў свой жорсткі суд царскі Понцій Пілат — крывавы Мураўёў-вешальнік. І правіў у Вільні, пад крыкі сляпога натоўпу чыноўнікаў: «Укрыжуй Яго, укрыжуй!» І пайшоў Кастусь Каліноўскі ў цярновым вянку з народных пакут на Галгофу — на пляц Лукішскі. А па смерці яго з'явілася чутка, што загінуў апошні кароль Літвы, апошняя абодвух народаў надзея.

Паражэнне паўстання 1863—64 гадоў, здавалася, назаўсёды перакрэсліла беларускі і літоўскі шляхі да адраджэння. На вісельнях, на катарзе, у ссылцы быў знішчаны асноўны духоўны, інтэлектуальны патэнцыял абодвух народаў. Іх культура ўпала так нізка, як ніколі. Вільні было загадана гаварыць толькі па-расейску. Да абсурду былі даведзены цэнзурныя забароны. Але мураёўская ноч не магла панаваць вечна, бо засталіся жыць народы. Кастусь Каліноўскі, патаемна пахаваны ў Вільні, там жа ўваскрос год праз сорак, увасобіўся ў постацях новых апосталаў нацыянальнага адраджэння. Іх было дваццаць беларусаў і адзін іудзей: Максім Багдановіч, Ігнат Буйніцкі, Змітрок Бядуля, Алесь Гарун, Цішка Гартны, Максім Гарэцкі, Карусь Каганец, Якуб Колас, Янка Купала, Вацлаў Ластоўскі, Антон Луцкевіч, Іван Луцкевіч, Цётка, Ядвігін Ш. Але ніхто з іх не стаў Іудам, не выракся свайго народа. А Максім Багдановіч найпершы пайшоў на духоўную Галгофу, горда і адзінока несучы свой крыж, які ў яго паэзіі быў увасабленнем зямнога быцця:

Хай жа, як сімвал над ім,
Крыж пра мучэнні нам скажа.

Калі супаставіць паэзію Максіма Багдановіча з Бібліяй, то ў іх, нават пры беглым супастаўленні, знойдзем шмат агульнага. Найперш іх яднае высокая духоўнасць, «Дух праўды». Потым вера ва ўсеперамагальную сілу дабрыні і красы: толькі імі, нібы ялеем, можна лячыць крывавыя раны народа. Як і ў Бібліі, так і ў Багдановіча, — той жа культ святла, зорак, сонца. Урэшце, і гэта, мусіць, самае важнае, аўтар «Вянка» непахісна верыў ва ўваскрэсенне, адраджэнне. Як прарасло праз тысячы год сухое зернейка, знойдзенае «паміж пяскоў Егіпецкай зямлі», так абуджаецца і калосіцца «дух народны».

Максім Багдановіч склаў сваю душу на алтар Айчыны заўчасна, не дажыўшы нават да ўзросту Хрыста. Але зернейка, шчодра сеянае ім і яго паплечнікамі, шчодра прарасло ў наступным 1918 годзе, калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, і ў 1919 годзе, калі Цішка Гартны, Язэп Дыла і іншыя незалежнікі ў жорсткім змаганні з мясніковымі і кнорынымі спрабавалі прыдаць нацыянальны характар Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. Прарасло ў 20-я гады, калі ў беларускую культуру прыйшлі сотні і сотні пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, артыстаў, вучоных. Закаласілася на старонках «Маладняка», «Полымя», «Узвышша», у сценах Беларускага універсітэта, першых беларускіх тэатраў.

Аднак у 30-я гады беларускі народ чакала новая Галгофа, самая страшная з усіх. Сотні тысяч, калі не мільёны (дакладна іх ніхто не лічыў і, бадай, падлічыць не зможа). І найперш — апосталы нацыянальнага адраджэння, цвет і краса нацыі. Але пайшлі таксама вяскоўцы, што добра працавалі ці не хацелі ўступаць у калгасы, пайшлі літоўцы і палякі, што жылі ў Беларусі, пайшлі дзеля выканання сатанінскіх планаў ціхамірныя людзі, на якіх нехта з зайздроснікаў напісаў тайны данос. Прытым у курапаты і гулагі адпраўляліся нават учарашнія Іуды, нават учарашнія каты... Здавалася, пякельныя сілы запанавалі над Беларуссю і шырокім светам на гэты раз ужо назаўсёды, асабліва калі сталінскі генацыд памножыўся на гітлераўскі. Знаходзіліся адзінкі (Ларыса Геніюш, Уладзімір Караткевіч), якія свядома бралі на сябе ролю Хрыста, абуджалі народную свядомасць. Раздаваліся заклікі: «Мы дойдзем!» (так называецца апавяданне Юркі Віцьбіча). Але мала хто суправаджаў іх па шляху на Галгофу, бо ў душах людзей пасялілася боязь. Тое ж адбывалася ў Літве, толькі на некалькі год пазней і без курапатаў на самой яе зямлі. А на Беларусі да ўсяго гэтага дадаўся злавесны Чарнобыль, які паставіў пад сумненне само існаванне нацыі. Яна стала пакутніцай не толькі за свае грахі, але і за грахі ўсёй ранейшай сістэмы, а, можа, і ўсяго чалавецтва.

І, тым не менш, услед за Літвой і не без яе ўплыву, на Беларусі таксама, гаворачы словамі Бібліі, «камень ад гробу адвалены». Незалежнасць выйшла адтуль, і людзям відочна з'явілася. Але радасці ад таго ў народзе мала. І многа Хамоў няверных, якія, не верачы вачам сваім, кажуць: не можа такога быць. І навошта, кажуць яны, нам тое ўваскрэсенне, калі знікла ранейшае, нібыта дармовае карыта?!

Так, «камень ад гробу адвалены». Але ўваскрэсенне на Беларусі яшчэ не адбылося. Бо занадта моцныя сілы, якія пнуцца зноў заваліць той камень. І занадта слабая вера ў людзях, духоўнасць, занадта кволая нацыянальна-гістарычная свядомасць.

Таму, каб адбылося сапраўднае ўваскрэсенне з мёртвых, каб не прапалі дарэмна ўсе папярэднія ахвяры шляху на Галгофу, нам сёння трэба прыпомніць запаветы Бібліі і запаветы Максіма Багдановіча, нашага Месіі, які прыняў пакуты за ўвесь народ.

Найперш — гэта перадсмяротныя словы Хрыста, звернутыя да Усявышняга: «Ойча святы! Захавай іх ў імя Тваё, тых, каторых Ты даў Мне, каб яны былі **адно**, як і мы».

Тое ж — у Багдановіча, які востра адчуваў нацыянальную раз'яднанасць беларусаў, прадчуваў, да чаго яна можа прывесці ў будучыні:

Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?

Увесь трагізм сённяшняй суверэннай Беларусі заключаецца ў тым, што, у адрозненне ад большасці суседзяў, яе насельнікі не жадаюць разам ляцець да зор. Адны абыякава стаяць збоку, пазіраюць, нібы ў тэатры: даляцяць — не даляцяць? Другія па-ранейшаму арыентуюцца на чужыя зоры. Трэція неба засцяць ранейшыя прывілеі, і — каб вярнуць іх, яны робяць усё, каб палёт збочыў з зорнага шляху. І толькі кагорта новых апосталаў, пераняўшы паходню ад Каліноўскага і Багдановіча, Купалы і Караткевіча, упарта нясе свой крыж усё вышэй і вышэй. Пойдзе за імі народ, як пайшоў ці амаль пайшоў у апошнія дні жніўня гэтага года, значыць,— адбудзецца нацыянальнае ўваскрэсенне. Не пойдзе, паддасца новым чэпістам — наступіць яшчэ адно ўкрыжаванне, можа, нават апошняе.

Чым жа мы, беларусы, можам уратавацца ад новага распяцця? Адказ тут — зноў у Бібліі, у Багдановіча. Уратуемся мы не нянавісцю, якая заўсёды толькі множыла зло ў свеце, а любоўю да сваёй шматпакутнай Айчыны, да яе суседзяў-прыяцеляў (згадаем біблейскае: «Ніхто не мае любові большае за тую, як калі хто аддасць душу сваю за прыяцеляў сваіх»), а высокай красой і высокай духоўнасцю, яе адраджэннем. Бо краса, духоўнасць выключаюць чэпізм. І наадварот — згадайце твары путчыстаў перад тэлекамерамі на першай і адзінай іх прэс-канферэнцыі...

І тут я падыходжу ледзь не да самага складанага і балючага пытання нашага цяперашняга адраджэння. Яно ідзе пакутліва цяжка, таму што недастаткова абапіраецца на духоўнасць, на гістарычную свядомасць. Крыніцы ж гэтай духоўнасці — у Вільні-Вільнюсе. У Мінску — плоць. А дух наш — у старажытнай Вільні. Там, дзе друкаваў свае кнігі Скарына, дзе пайшоў на Галгофу Каліноўскі, дзе выдаваў «Нашу Ніву» Купала, дзе выкладаў Гарэцкі, збіралі музей Луцкевічы, ствараў «Грамаду» Тарашкевіч. Там, дзе святая Ганна і святы Міхал, дзе Вострая брама з выявай «Пагоні». Нездарма ў старую Вільню імкнуўся Максім Багдановіч, каб набрацца моцы для далейшага шляху на Галгофу. Нездарма Антон Луцкевіч, які садзейнічаў гэтаму Максімаваму прычасцю, сцвярджаў, што Вільня — дзівосны горад, бо ў яго ёсць душа. Дадамо сёння: ёсць згустак беларускай духоўнасці.

І вось сёння ўзнікла парадаксальная сітуацыя: у Беларусі — цела, плоць, а ў Вільні — душа, дух. Уваскрэсенне наступіць, калі яны паяднаюцца, калі дух стане целам, а цела — духам. Аднак плоць і душу сёння падзяляе мяжа, праведзеная ў 1939 годзе адвольна, па-жывому Сталіным і Гітлерам дзеля прынцыпу «падзяляй і пануй». Праведзеная з тонкім разлікам, яна і сёння крывавіць. На мытнях яе творыцца зло, гучаць стрэлы. І як тут зноў не ўспомніць Багдановіча:

Так многа ёсць паўсюль багацтва і красы,
А людзі нішчацца у голадзе, у зморы
Ад беднаты, ад цемнаты,
Бо скрозь — мяжы, бо скрозь — платы.

Дык што, скажуць скептыкі, гэты Мальдзіс, сам літовец па карэннях, тым не менш заклікае пераглядзець граніцы, вярнуць беларусам Вільню?! Член Сойма БНФ — паддаўся на ранейшыя ультыматыўныя штучкі?! На гэта хачу запярэчыць: ні ў якім выпадку! Па-першае, гэта нерэальна, бо ў Вільнюсе жыве не толькі беларуская душа, але найперш душа літоўская, польская, гэбрайская, руская, татарская. Адыміце нешта адно — парушыцца раўнавага, загіне унікальнае спалучэнне, якое фарміравалася на працягу стагоддзяў.

Таму сёння мы, беларусы, услед за Сяргеем Дубаўцом, павінны ставіць пытанне інакш: не каб Вільня належала нам, а каб мы належалі Вільні. Каб наша цела, знясіленае даўнімі хваробамі, прычасцілася спрадвечнай віленскай духоўнасцю. І — уваскрэсла.

І тут паўстае новае, ці не галоўнае пытанне: а як быць з праклятай мяжой, што аддзяляе душу ад цела?! Якое рашэнне тут прыняў бы Максім Багдановіч? Думаецца, што ён, знаўца і тонкі інтэрпрэтатар гісторыі Вялікага княства Літоўскага, абавязкова звярнуўся б да павучальнага вопыту мінулага, звярнуўся б да часоў Скарыны, калі была еднасць, так неабходная сёння нам, калі Вільняй у згодзе правілі два войты, адзін з якіх быў літовец-католік, а другі беларус-праваслаўны, калі княствам мудра правілі Паны — Рада, склад якіх фарміраваўся на тых жа парытэтных пачатках. То чаму ў бліжэйшай будучыні тут не могуць у згодзе правіць два прэзідэнты, адзін з якіх выпраменьваў бы сваю энергію на ўсход, а другі — на захад?! Тады знікла б мяжа, што супрацьставіла два спрадвечна блізкія народы. Тады беларуская душа нарэшце злучылася б з целам, а беларусы Віленскага краю, русіфікаваныя і паланізаваныя (літоўцы і беларусы тут аднолькава вінаватыя, што такое дазволілі), нарэшце ўсвядомілі б, хто яны ёсць. Тады не адчувалі б сябе абдзеленымі літоўцы, што жывуць па гэты бок граніцы, у Гервятах, Рымдзюнах і Пелясе. Тады нарэшце мы абясшкодзілі б міну замаруджанага дзеяння, падкладзеную нам Сталіным і Молатавым, бо самі сабой вырашыліся б многія балючыя для літоўцаў праблемы Віленскага краю, бо і пра інтарэсы палякаў ды рускіх можна было б тады задбаць, зыходзячы з новай сітуацыі.



А. ФРАЛЯНКОЎ. «Ля сіняй бухты».

Скептыкі, вядома, скажуць тут, што ўсё гэта нерэальна, што такога праўлення няма сёння анідзе ў свеце. Але ім лёгка запярэчыць: гадоў пяць яшчэ здавалася нерэальнай нават сама думка пра суверэнітэт Літвы ці Беларусі... Ды і дэзінтэграцыйныя працэсы, як вучыць нас вопыт Еўропы, неўзабаве павінны саступіць месца працэсам інтэграцыйным, аб'яднальным. А што датычыцца адсутнасці аналагаў, то хіба мела аналагі ў свеце само Вялікае княства Літоўскае, якое павінна служыць нам сёння прыкладам для пераймання?!

Толькі з'яднаўшы, як калісьці пад Грунвальдам-Жальгірысам, свае сілы, мы зможам завяршыць свой гістарычны шлях на Галгофу, зможам уваскрэснуць без боязі, што хтосьці зноў заваліць адвалены ад магілы біблейскі камень. І тады, як сказана ў Евангеллі ад Яна, сум наш «абернецца ў радасць». І тады, як прарочыў наш Страцім-Лебедзь, «сонца гляне» і «ачуняе старана».

---

Выступленне прагучала ў Вільнюскім універсітэце на канферэнцыі, прысвечанай юбілею М. Багдановіча.

**Тэма інтэлігенцыі апошнім часам набыла неадназначнае гучанне. І на старонках «ЛіМа» выказваюцца розныя меркаванні наконт яе ролі ў пасоўванні Беларускай дзяржавы да дэмакратыі і нацыянальнага росквіту. А. Сідарэвіч апірышчам нацыянальнага будаўніцтва лічыць, напрыклад, сваю буржуазію, як адзнаку сталасці нацыі; Я. Новікаў увогуле прагназуе знікненне інтэлігенцыі як айчыннага сацыяльнага феномена...**

**Але задамося пытаннем: на ЯКІ грунт апускаюцца рэформы і адраджэнскія высілкі! І адкажам: на грунт змярцвелы і дэхрысціянізаваны; грунт, на якім, падобна як у біблейскай прыпавесці, семя новай духоўнасці само па сабе наўрад ці ўзрасце... Таму, на наша меркаванне, ЦЯПЕР патрэба духоўных работнікаў на тутэйшай глебе можа й найбольш завастрылася, бо перш чым (ці — адначасова) рухаць сацыяльныя рэформы, трэба правесці рэформы маральныя — «ачысціць», гуманізаваць тутэйшасць.**

**Падаецца, што праблема гэтая ў роўнай ступені завострана як для вёскі, так і для горада. Якія інтэлігенты-гуманізатары прыйдуць сюды, як іх выхаваць, — аб гэтым разважае на старонках газеты дэкан факультэта беларускай філалогіі і культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта Ігар ЖУК.**

**Гутарку вядзе Юрась ЗАЛОСКА.**



# Ігар ЖУК: «УВЕСЬ ЧАС ПАТРАБУЮЦЦА ЗВЫШВЫДАТКІ ДУХОЎНЫХ СІЛ»

**— Ігар Васільевіч, прапанову «палетуценіць» на старонках «ЛіМа» на зададзеную тэму вы сустрэлі жартаўлівым «І ты, Брут?..». Але сёння меней за ўсё хацелася б выступаць у ролі фіксатара, ці — храніста адраджэнскага руху, бо калі яшчэ ўлетку гэта мо й было б натуральным у тойчасовай рэспубліцы, дык сёння, на мой погляд, надыходзіць пара адраджэнцаў-эстэтаў або — нацыяналаў у белых пальчатках. І разам з тым — прафесіяналаў беларускай справы. Як вы мяркуеце, ці зможа вось гэтая — эстэцкая плынь у Адраджэнні — зыначыць, згуманізаваць тутэйшы культурны грунт? А, можа, час эстэтаў у Адраджэнні яшчэ не наспеў, і ім лепш працягваць унутраную эміграцыю?**

— Інтэлігенты-адраджэнцы — у белых пальчатках?.. Нішто сабе. Гэткае мройлівае сненне аб удасканаленым і вольным стане беларускага адраджэння, беларускага руху, прызнацца, яшчэ да мяне не прыходзіла. Бо сам беларускі рух, бо сама беларуская ідэя яшчэ курчыцца ў аковах. І кашчэіста-крывавыя знакі кайданаў на руках нацыяналаў-адраджэнцаў, па ўсім відаць, яшчэ на добрае пакаленне пажыццёва застануцца ў спадчыну невытручанымі плямкамі і, калі хочаце, своеасаблівай радзімкай іх свядомасці. Ва ўсякім разе нават і не ў тойчасовай, а сённяшняй Рэспубліцы Беларусь больш натуральным мне ўяўляецца інтэлігент-беларус, скаваны ланцугом **неабходнага** дзеяння, чым у белых пальчатках натхнёнай эстэтыкі.

Вось выток глыбокай супярэчнасці: дзеля таго, каб беларускі рух не пайшоў па замкнёным коле, вельмі важна займець інтэлектуальную эліту беларускай нацыі, і ў той жа час сёння яе мець мы не можам, паколькі нацыяналы ў сваёй роднай Беларусі па неабходнасці мусяць быць чорнарабочымі нацыянальнай ідэі.

Гістарычна яно так і праглядаецца: белыя пальчаткі разняволенага духу заўсёды ляжалі поруч з цяжкімі кайданамі неабходнасці. Сам тэрмін «адраджэнец», раўназначны *паняццю свядомага* інтэлігента-беларуса, сама неабходнасць філасофскага асэнсавання этапаў беларускага адраджэння ўжо апрыёрна заключаюць у сабе дзве несумяшчальныя рэчы—кайданы і пальчаткі. Каб надзець пальчаткі, кайданы трэба скінуць. А вось гэтага якраз і не можа дазволіць *сабе беларуская інтэлігенцыя. Гэта*— нашае, беларускае пракляцце.

Андрэй Лабановіч з трылогіі «На ростанях»—класічны прыклад і класічны сімвал. Коласаўскі герой прыйшоў у Цельшына, у свой народ з недурной і вельмі высакароднай місіяй духоўнаасветніцкай дзейнасці, а жыццё зрабіла яго *«чорнарабочым валом»,* палоннікам і ахвярай гэтай ідэі. Максім Багдановіч быў найвялікшым эстэтам беларускага руху і ў той жа час намёртва схоплены тым, што я называю аковамі неабходнасці.

Так што справа не ва ўнутранай эміграцыі—самая магутная хваля беларускага адраджэння пач. XX ст. рухалася і ў эстэцкім напрамку. І быў то час, калі беларусы аб'ектыўна трапілі на вось еўрапейскага духоўнага развіцця (самаазначэнне пасля развалу шэрагу імперый). Беларускі народ натуральна вылушчваў са сваіх нетраў не адзінкі, а масава, у масавым маштабе нацыянальную інтэлігенцыю, якая здолела не проста абслугоўваць першасныя запатрабаванні народа, але і актыўна фарміраваць яго духоўную самасць. Дзякуючы не ў апошнюю чаргу гэтаму (скажам так—«восеваму часу») стаў магчымым яркі росчырк 20-х гг. на шпальтах беларускай ідэі. Росчырк быў такі зіхоткі, паветрана лёгкі, што і сапраўды здавалася, быццам ён здзейснены ў белых пальчатках.

**— Хоць гэта было зусім не так...**

— Безумоўна. Мяне час ад часу свідруе і не адпускае фантастычная думка. Фантастычная, бо грунтуецца на псіхалогіі пераважна інтуітыўнага пазнання. Сэнс яе ў тым, што закуты знак «чорнарабочай неабходнасці» ў 20-я гг. з беларускай інтэлігенцыі дапамагалі зняць і інтэлігенты-небеларусы, якія проста і шчыра служылі беларускай ідэі. І іх дзейнасць у пэўнай ступені развейвала псіхалагічны дыскамфорт паміж неабходнасцю служыць першачарговым патрэбам і слуганнем вечнасці. Фактычна мог скласціся новы тып самапачування беларускага дзеяча, аднак д'ябальскае паляванне на інтэлект, раз'ятраная сталінская машына прывяла да чарговай наканаванасці — усё пачынаць ледзь не з падмурка.

Па характары задач і па колькасным складзе цяперашняя адраджэнская інтэлігенцыя аказалася адкінутай на стагоддзе, калі не больш. Па прарэджанасці ў народным масіве беларус-нацыянал — «пасяленец» XIX стагоддзя, па грунтоўнасці і сутнасці ідэалу—пач. XX ст. Цікава, што якраз моладзь выявіла такую асаблівасць сённяшняй ментальнасці дастаткова выразна цераз настальгію па героях-касінерах, па настроях нашаніўскага перыяду. У расіян своеасаблівым сколкам з гэтага—рашуча заяўленая і прынятая моладдзю настальгія па паручніках і есаулах, імітацыя іх настрояў і пачуццяў. Натуральная гэта настальгія: у часы пахінутага менталітэту позірк заўсёды шукае падтрымкі ў гераічных перыядах народнага жыцця.

Але ж трэба зразумець, што гэта ў нейкім сэнсе толькі імітацыя, падробка пад есаулаў ці нашаніўцаў. Высакародная імітацыя, але калі яна стане масавай з'явай, то мы з непазбежнасцю сутыкнёмся з вульгарызацыяй ідэалу, вульгарызацыяй культуры (надрыўна-безгалосыя спевы наваяўленых есаулаў красамоўна на гэта паказваюць). Зразумець трэба, што мы—іншыя, што ў нас інакшы стыль і ўклад жыцця... Мы з поўным правам можам накрэсліць на сваіх штандарах нашаніўскі ідэал, але шляхі яго рэалізацыі шмат у чым не могуць супасці. Істотна падобным застаецца адно: *знoўку, увесь час, перманентна патрабуюцца* агромністыя звышвыдаткі духоўных сіл.

**— У красавіку, на адкрыцці факультэта, вы казалі, што бачыце яго прызначэнне ў з'яднанні універсітэта на грунце беларушчыны, але разам з тым не выключылі і таго, што на першым часе свайго існавання ён на Гродзеншчыне можа паўстаць пэўнай духоўнай апазіцыяй. Цяпер, прынамсі, агульная палітычная кан'юнктура адчувальна змянілася: памёр камунізм, якому не патрэбна было наша Адраджэнне; наказаў доўга жыць «союз нерушимый», у якім нацыянальнай інтэлігенцыі і настаўніцтву была наканавана плебейская доля і г. д. Ці можна ўсё-ткі сказаць, што пад найменнем вашага факультэта закладзена адна з першых цаглінак нацыянальнай школы?**

— Апазіцыя такая ёсць, мае непазбежна аб'ектыўны характар. Гаворка вядзецца пра тое, што палітычная апазіцыя рэтушыравалася, а апазіцыя «аб'ектыўная», такая, калі на змену наднацыянальнай адукацыі заступае сістэма нацыянальнага выхавання навуковай інтэлігенцыі, як быццам асэнсавана яшчэ недастаткова глыбока. Усемагчымыя пераходныя паўтоны знялі прамы і рэзка абазначаны былы кантраст супрацьстаяння (прынамсі, у тым выглядзе, як гэта бачылася мне ў красавіку). Сёння разумеюць усе, што выступаць напрамую супраць нацыянальнай ідэі досыць рызыкоўна. Больш таго, нават у катэгарычных непрыхільнікаў беларушчыны нацыянальныя фарбы становяцца казырнай картай дзеля доказу асабістай прыхільнасці да перабудовы. Адбываецца чарговая вульгарызацыя важнейшай грамадскай з'явы: нацыянальная работа ператвараецца ў гульню-жмуркі з нацыяй. Вось зыходны пункт сённяшняга, лістападаўскага, разумення апазіцыі. Універсітэты, перш за ўсё універсітэты павінны стаць беларускімі па сваім духу. Навуковыя адкрыцці не кучкуюцца ў адным месцы, а прапісаны ў розных куточках планеты і з тае прычыны, што працэс доказу, тэмперамент логікі непазбежна ўключае непаўторныя рысы логікі і тэмпераменту вучонага як асобы нацыянальнай. І толькі Богу вядома, колькі няздзейсненых адкрыццяў не дабрала і не выкарыстала чалавецтва з-за вымусовай адсутнасці ў прыродзе беларускага тыпу мыслення. Вось чаму і беларуская мова павінна як мага хутчэй акрыяць у навуцы і навучальных установах — як натуральная форма нацыянальнай мысліцельнай энергіі.

Да той пары, пакуль універсітэт не ўсталюе пад сабой грунт беларускай дзяржавы, да той пары факультэт будзе адчуваць пэўны дыскамфорт супрацьстаяння.

**— Факультэт беларускай філалогіі і культуры — утварэнне новае, прынамсі, больш гэтніх факультэтаў, цалкам працуючых на ніве нацыянальнай культуры і мовы,— няма. Слушна было б меркаваць, што і метода на ім мае свае адметнасці, як кожная новая з'ява ў духоўнаасветным жыцці. Ці паспелі стварыць нешта «сваё»?**

— Варта ўдакладніць. Наш факультэт ужо не адзіны. Карыстаючыся ўдзячнай нагодай, шчыра віншую менскіх калег, студэнтаў факультэта беларускай філалогіі і культуры Менскага педінстытута, усіх шчырых беларусаў з яшчэ адным святам у нашай хаце.

І, ведаеце, тое, што не адны—адчуванне больш салодкае і ўсцешнае, чым адчуванне першынства ці нейкай асобнасці. А наогул, ідэя, як кажуць, насілася ў паветры. Вылюляў яе, а гады тры назад зельмі зграбна і нечакана смела выказаў на адным з пленумаў Саюза пісьменнікаў Алег Лойка. А вось з пялюшак падняць аказалася нашмат складаней. Гэта— не парадокс, гэта адзін са штрышкоў да пытання аб апазіцыі.

Мы і самі жартуем час ад часу: а ці магчыма ўтварыць новую методу навучання на адным асобна ўзятым факультэце? Жарт не надта вясёлы—сучасная сістэма вышэйшай адукацыі непаваротлівая. Часта ў яе вязкасці грузнуць, патанаюць арыгінальныя і смелыя педагагічныя ідэі. Вырвацца з учэпістых схем груваcткага навучальнага працэсу вельмі цяжка. А малады чалавек, ён і ёсць малады чалавек, для якога эфект навізны і нават займальнасці вырашае ледзь не галоўную ролю дзеля канчатковага выбару.

Што мы паспрабавалі здзейсніць?

Перш за ўсё імкнуліся разарваць цягучы рытм філалагічнай адукацыі. Прапанавалі вывучаць дысцыпліны досыць хутка, кампактна, у лагічных повязяхблоках. Рызыкнулі нават на своеасаблівы «грэх»—аб'яднелі практыку фальклорную і дыялекталагічную. Тым самым з'явілася «ніша» для новай практыкі—краязнаўчай. Дарэчы, яна ўжо і адбылася і, здаецца, займела поспех.

Увялі новыя курсы: «Уводзіны ў беларусазнаўства», «Старажытнабеларуская міфалогія», «Гісторыя грамадскай і філасофскай думкі Беларусі», вялікі, разлічаны на 2 гады, стабільны курс па гісторыі беларускай культуры. Па задумцы, усе стацыянарныя дысцыпліны разбіваюцца веерам спецыяльных праблемных курсаў. Пачынаючы з 5-га семестра кожны студэнт будзе слухаць на тыдзень па 3—4 лекцыі такіх спецдысцыплін. **Што** і **якія** праблемы захоча—ён зыбера сам. Гэта і будзе праўдзівай спробай рэалізаваць прынцып вольнага наведвання: студэнт вольны не проста хадзіць ці не хадзіць на заняткі — такога выбару ў яго і не павінна быць. Студэнт вольны ў выбары таго, што ён хоча слухаць.

Больш складана рэалізаваць задуму, так бы мовіць, інтэгруючага навучання, каб адна дысцыпліна, не трацячы сваёй спецыфікі, знаходзіла падтрымку другой, трэцяй і наадварот. Інтэгральным звяном тут з'яўляецца, безумоўна, культура. Мова як фактар культуры, а не толькі як звод правіл і арфаграм; літаратура як асобная форма духоўнай дзейнасці. Гэта значыць, што мы стаім перад неабходнасцю, дагэтуль яшчэ нязнанай— неабходнасцю тэорыі нацыянальнай культуры. Тут, на ўзбочынах розных навуковых «ландшафтаў», спадзяёмся на самыя нечаканыя здагадкі дзеля тварэння нацыянальнай канцэпцыі адукацыі і выхавання. Акрамя таго, калі студэнт з розных бакоў гляне на твор—гэта ж цудоўна! Беларускія летапісы—як гістарычная крыніца, як твор старажытнай літаратуры, як жанр летапісання, нарэшце, як помнік старабеларускай мовы і г. д. Здаецца, за тры-чатыры падыходы можна чагосьці і дабіцца; прынамсі, хоць раз ды дачытаць твор да канца...

Халоднае стаўленне да ведаў спыніла і прафесараў. З усяго дыдактычнага працэсу выпала гэтае вельмі важнае звяно—веды. Веды не як прынука, страх перад сесіяй, а — як духоўнае запатрабаванне. І разам з гэтым звяном, гэтакім запатрабаваннем страцілася яднаючае і прафесара і шкаляра пачуццё **калежскасці**, калегі па вытвору духоўнага прадукта.

Так што «сваё», што мы робім на факультэце,—гэта яшчэ спроба, эксперымент, доследд, галоўнай задачай якога з'яўляецца не самамэтнае ўвядзенне курсаў, а ўладкаванне такой атмасферы, калі б сутнасць кожнай асобы вызначалася перш за ўсё голадам па духоўнасці.

**— Цяпер — «нецікавае» пытанне. Заўсёды ёсць актуаліі. Для філфака БДУ, напрыклад,— новае памяшканне, змагацца за якое студэнты і дэканат гатовы выйсці на пляц Леніна... Што ж з'яўляецца актуаліяй для вашага, Ігар Васільевіч, «каралеўства»?**

— О, гэта яшчэ якое цікавае пытанне! Штодзённыя клопаты пра вучэбныя плошчы, абсталяванне, грошы не маюць *вялікай розніцы для БДУ ці для нас.* І мы таксама лічылі, што гэта было б страшэнна прыгожа, калі б яшчэ да пачатку фактычнага навучальнага года (г. зн. да вяртання студэнтаў са славутай бульбяной адысеі) улады прынялі рашэнне аб перадачы факультэту нацыянальнага профілю будынка палітасветы. Аднак *гэтага не сталася...*

І ёсць у гэтым адна закавыка, якая не бачыцца і, відаць, не можа бачыцца староннім вокам з Менску. Аналізуеш зыступленні нашых народных дэпутатаў, палітыку мясцовых улад і прыходзіш да роспачнага вываду: універсітэт для большасці гродзенскіх чыноўнікаў знаходзіцца на задворках іх свядомасці. І трэба даказваць відавочную рэч—што Гродна мае універсітэт; што ёсць на свеце і такі—універсітэцкі!—горад; што універсітэт — гэта своеасаблівае магдэбургскае права на гуманізм і цывілізацыю.

Такая вось сумная спецыфіка гэтай гродзенскай «актуаліі».

**(Працяг на стар. 12).**

# ПРЫГОЖАЕ — ГЭТА ЖЫЦЦЁ

## Максім Багдановіч і сімвалізм

Люба ТАРАСЮК

У КОЛЕ даўно акрэсленых крытыкай літаратурных традыцый і кантэкстаў у творчасці Максіма Багдановіча самай складанай застаецца праблема ўплываў мадэрнісцкага мастацтва, а дакладней сімвалізму і дэкадэнцтва. Хоць менавіта гэтай праблемай было пазначана ўваходжанне Багдановіча ў беларускую паэзію (прыгадаем успаміны В. Ластоўскага пра лёс вершаў міфалагічнага цыкла, напачатку ўспрынятых у «Нашай Ніве» як «дэкадэншчына»).

Іншая справа, што сам па сабе сэнс так званай дэкадэншчыны адносна Багдановіча вызначаўся Ядвігіным Ш. і некаторымі іншымі толькі як антынамія народнасці ў спрошчаным разуменні гэтай апошняй, калі, як піша У. Конан, «народным прызнавалася толькі непасрэднае, рэалістычнае адлюстраванне сацыяльнага і прыроднага быцця працоўнага народа, пазбаўленае складанай асацыятыўнасці, вобразнай сімволікі і філасофскай медытацыі».

Пазней некаторыя крытыкі спрабавалі напоўніць ацэнку «дэкадэншчына» больш канкрэтным зместам, экстрапалюючы на творчасць Багдановіча характэрныя рысы ўпадніцкай свядомасці, што культывавалася літаратурай дэкадансу: пачуццё асуджанасці, бязвер'е і страх перад жыццём, прадчуванне блізкага канца. М. Піятуховіч пісаў у 1927 годзе, што ў творах паэта «адчуваецца стогн хваравітай і надломленай душы» (артыкул «Цені і святло ў творчасці М. Багдановіча»). Сумнавядомы Л. Бэндэ разам з А. Кучарам упэўнена даводзілі, што творчасць Багдановіча «перапоўнена пэсімізмам, бязвер'ем, безнадзейнасцю, жахам перад жыццём», што «Багдановіч — паэт-індывідуаліст. Свет яго паэзіі — гэта свет выбраны. Свет упадніцкіх настрояў, ціхіх і жахлівых адчуванняў, або свет зорак, лесуноў, русалак глыбокай мінуўшчыны, рэлігійнасці, містычнасці, эстэтызму» («Беларуская літаратура». Хрэстаматыя. Менск, 1931).

Як жа магла спалучацца «дэкадэншына» з адраджэнскай сутнасцю творчасці Багдановіча — гэтае пытанне для класава звышпільнай крытыкі не існавала.

Бянтэжыць тое, што вышэйпрыведзеныя ацэнкі яшчэ і сёння ўплываюць на ўспрыманне паэзіі Багдановіча. Маю на ўвазе перадусім скажэнне эмацыянальнага вобліку паэта, які часта характарызуецца праз матывы смутку, журботнага одуму: маўляў, драматызм уласнага лёсу і Бацькаўшчыны змушаў да гэтага. Магчыма, ісціна якраз у гарманічнасці душэўных адчуванняў і мастацкім універсалізме Багдановіча. Але звернемся да тых матываў, якія пераважалі ў трагічны 1917 год, калі час адлічваў апошнія месяцы і дні паэта і калі, як гэта бывае ў падобнай сітуацыі, магло праявіцца самае духоўна-сутнаснае, самае глыбокапатаемнае:

**Набягае яно**
**Вечарамі, начамі,**
**Адчыняе акно**
**І шамрэе кустамі.**
**І гавора адну**
**Старадаўнюю казку —**
**Аб любоў і вясну**
**І жаночую ласку...**

І ўжо зусім апошняе, на развітанне са светам: «Ў краіне **светлай, дзе я ўміраю...»** Якое незвычайнае спалучэнне святла і смерці! І столькі тут сілы духу, любові да жыцця!..

Ёсць яшчэ праблема неадэкватнага разумення самой з'явы дэкадэнцтва, што асабліва актуальна сёння, калі адбываецца «рэабілітацыя» філасофіі і эстэтыкі цэлай плеяды выдатных мысліцеляў — М. Бярдзяева, У. Салаўёва і іншых. Вось што, у прыватнасці, пісаў Бярдзяеў пра дэкаданс: «Гэта — краса адцвітання, краса восені, краса, якая ведае найвялікшыя супрацьлегласці, якая страціла цэльнасць і непасрэднасць, але набыла мудрае веданне не толькі аднаго свайго, але і супрацьлеглага сабе... Эпохі вытанчанасці і заняпаду не бясплодныя для чалавечага духу, у іх ёсць сваё мігатлівае святло».

Даволі часта ў літаратурна-крытычнай практыцы змешваюцца паняцці **дэкаданс** як філасофія заняпаду і сімвалізм як мастацкая плынь у еўрапейскай культуры на мяжы XIX — XX стагоддзяў. Часткова гэтыя паняцці супадаюць. Але эстэтыка сімвалізму надзвычай складаная і шматмерная з'ява, у якой, паводле аднаго з так званых малодшых сімвалістаў, Андрэя Белага, можна вылучыць рысы «сімвалічнага шляху» і рысы, што рэзка аддзяляюць сімвалізм «ад паневаў эстэтызму і дэкадэнцтва». Сучасны даследчык рускага сімвалізму А. Ярмілава разглядае дэкадэнцтва як унутраную праблему сімвалізму («Теория и образный мир русского символизма»).

Усе гэтыя праблемы, цяжка вырашальныя для нас, былі блізкія Максіму Багдановічу.

Сябры паэта па Яраслаўскай гімназіі (Д. Дзябольскі, Ц. Годнеў) успаміналі, як жыва цікавіўся Багдановіч тагачасным літаратурным працэсам, на вечарах і пасяджэннях літаратурнага гуртка выступаў з дакладамі пра сучасную ~~рускую~~ паэзію. Прыводзіліся нават назвы дакладаў: «Новыя павевы ў рускай літаратуры», «Сучасная літаратура і народны рух», «Сімвалізм і дэкадэнцтва». «Ён любіў чытаць — заўсёды на памяць вершы Блока, Белага... і чытаў заўсёды вельмі добра: усхвалявана і стрымана разам», — прыгадваў прыяцель паэта А. Залатароў. І ў той жа час Багдановіч цытаваў пародыю на фармалістычныя захапленні сімвалістаў: «Ходит челн мой непричаленный по морю чепухи» (тут лёгка адгадваўся «чуждый чарам черный челн» К. Бальмонта).

Эстэтычная адкрытасць паэзіі М. Багдановіча мастацкаму вопыту сусветнай і ў першую чаргу рускай літаратуры выяўляецца і ў сувязі з паэзіяй сімвалізму. Але гэтая сувязь надзвычай складаная і супярэчлівая, што абумоўлена сінхранічнасцю нацыянальнага Адраджэння з яго ідэяй Маладой Беларусі і духоўнасці крызіснага характару на шляху абнаўлення каштоўнасцяў «старога» грамадства. Багдановіч і сімвалісты духоўна вельмі розныя велічыні, таму філасофскія асновы сімвалізму не ўспрымаліся паэтам як грунт уласнай творчасці. Напрыклад, ідэя саборнасці — такая блізкая рускай душы. Аднак менавіта творчая практыка паэтаў-сімвалістаў дапамагала Багдановічу вызначыць уласныя шляхі мастацкага развіцця, узбагачэння паэтыкі. Гэта не выключала і эстэтычнай апазіцыі, што не менш істотнае ў мастацкай практыцы.

Яшчэ ў 20-я гады беларуская крытыка выйшла на гэтую праблему. Я. Плашчынскі (Язэп Пушча) адзначаў: «У яго паэзіі беларускае мастацкае слова стала пераліваецца адценнямі ўсіх колераў сучасных яму дасягненняў заходнееўрапейскіх літаратур у асобе школ: імпрэсіянізму і сімвалізму» («Узвышша», 1927, № 1). М. Піятуховічу належыць спецыяльны артыкул «Максім Багдановіч як паэт-імпрэсіяніст» («Полымя», 1923, № 7—8).

Пазней, ужо толькі ў 70-ыя гады ўзнікла магчымасць і патрэба спакойна і прафесійна, без ідэалагічных рэверансаў звяртацца да еўрапейскага гісторыка-літаратурнага кантэксту творчасці М. Багдановіча (у працах Р. Бярозкіна, А. Лойкі, В. Каваленкі). Называюцца канкрэтныя прыклады творчай сувязі беларускага паэта з творчасцю А. Блока, В. Брусава, іншых сімвалістаў: прынцып лірычнай цыклізацыі «Вянка», тэма горада, пераклічка назваў асобных цыклаў і твораў, блізкасць настрояў. Цікавыя высновы робіць Р. Бярозкін у сваёй кнізе «Звенні»: «Блок, як правіла, спадарожнічаў Багдановічу там, дзе ў беларускага паэта бралі верх непасрэдны лірызм, «стыхійнае» пачуццё. Брусаў, наадварот, — там, дзе пераважалі дух сістэматызацыі, канструктыўнасць мыслення, «культурная» ўстаноўка», «спакойная дума» эрудыта і майстра, які ўзбагачаў родную літаратуру формамі сусветнай паэзіі і бачыў у гэтым узбагачэнні вялікі нацыянальна - патрыятычны сэнс».

Можна і далей памнажаць канкрэтныя прыклады творчай пераклічкі Багдановіча з творамі яго сучаснікаў-сімвалістаў. Такія знаходкі часам больш уражваюць сваёй нечаканасцю, чым паэтычнай сутнасцю. Вядома, напрыклад, як асабіста-драматычна і цнатліва гучала ў маладога паэта тэма мацярынства.

**Ціха ідзеш ты, у нетрах**
**дзіцёнка хадою калышаш,**
**Цёмнай і цёплай яму служыш**
**калыскай цяпер.**

Здавалася б, уплыў Брусава ў гэтай тэме магчымы толькі па лініі эратычных матываў, як у невялічкім цыкле «эрас» або ў асобных вершах цыкла «Каханне і смерць» (сам жа Багдановіч у рэцэнзіі на зборнік рускага паэта як характэрную рысу яго творчасці называе «напружана-пачуццёвую эротыку»). Але менавіта ў Брусава Багдановіч мог прачытаць: «Ее движенья непроворны, // Она ступает тяжело, // Неся сосуд нерукотворный, // В который небо снизошло». Назва верша даецца на латыні: «Haвet illa in alvo» («Яна мае ў чэраве»), і яна, хутчэй за ўсё, з'явілася імпульсам да твора Багдановіча, дзе сэнс і рытм бліскуча ўраўнаважаны элегічным двувершам (спалучэннем гекзаметра і пентаметра), а гэта ўжо антычная традыцыя.

Галоўнае, што мог успрыняць Багдановіч у сваіх сучаснікаў-сімвалістаў і іх папярэднікаў і што абяцала плён на яго самастойным творчым шляху, — гэта **франтальнасць гісторыка-культурных зацікаўленняў, узбагачэнне паэтыкі, паглыбленне лірызму і суб'ектыўнага зместу эстэтычнай эмоцыі**. Невыпадкова ж Брусаў мог усклікаць, хай сабе палемічна: «Па-за сімвалізмам няма паэзіі».

Усведамляючы ўнутраную супярэчнасць самога творчага працэсу, пэўную абмежаванасць творчай свабоды мастака, Багдановіч свядома імкнуўся пазбыцца своеасаблівых «путаў», якія адчувае паэт, ствараючы адметную мастацкую рэальнасць. Адсюль жаданне паэта цалкам даверыцца свайму творчаму сумленню і інтуіцыі. Ва «Уступе» да цыкла «Вольныя думы» ён пісаў: «Я думы, путамі не скутыя, // Тут перад вамі вываджу».

«Вольныя думы» засведчылі большую свабоду ад усталяваных у тагачаснай беларускай паэзіі эстэтычных прынцыпаў і пэўных трафарэтаў, большую адкрытасць агульнаеўрапейскаму літаратурнаму працэсу і ў той жа час складанасць, неадназначнасць адносін да сімвалізму.

Паэзіі Багдановіча не ўласцівы крызіс гуманістычных каштоўнасцяў, які зведала літаратура сімвалізму. Але зусім абмінуць такія настроі пры ўсім сваім жыццялюбстве паэт не мог. Яны і вызначаюць эмацыянальную дамінанту «Вольных думаў».

**Была калісь пара: гучэла**
**завіруха**
**І замяла маёй мінуўшчыны**
**сляды.**
**Усціхла ўжо яна... Плывуць у**
**даль гады,**
**А ўсё ж не б'юцца скрыдлы**
**духа:**
**Куды цяпер ісці? Куды?**

Страта духоўных арыенціраў і ўвогуле гуманістычнай перспектывы знайшла адлюстраванне ў вершы Багдановіча «Мы доўга плылі ў бурным моры...» Крушэнне карабля, які звяраў свой курс па зорах і «сеў на скалы ў змрочным моры», сімвалізуе паражэнне чалавека перад падманным бляскам ідэалаў, якія не апраўдалі сябе,— у гэтым бачыцца пэўная сувязь з грамадска-палітычнай і духоўнай сітуацыяй пасля паражэння рэвалюцыі 1905—1907 гадоў. Паэт паказвае бездапаможнасць чалавека перад фатальнай сілай зла і абставін: «І бестрывожна бачаць зоры, // Як тонуць людзі з карабля». Аднак у яго няма той пагарды і халоднай адчужанасці ад чалавека, якія культываваліся літаратурай розных ідэйна-мастацкіх кірункаў. За знешняй стрыманасцю інтанацый у гісторыі з крушэннем карабля ў Багдановіча можна адчуць затоены боль чалавека аб нязбыўна чалавечым.

Адштурхоўваючыся ад пэўнай думкі, вобраза, інтанацыі, падказаных творчасцю іншых паэтаў, Багдановіч развівае іх у самастойную паэтычную карціну зусім новай, адметнай мастацкай і філасофскай вартасці. Пачатак верша «Мне снілася» («Усё вышэй і вышэй я на гору ўзбіраўся, // Падымаўся да сонца, што дае нам цяпло») успрымаецца як прамое наследаванне К. Бальмонту: «Чем я выше всходил, тем светлее сверкали, // Тем светлее сверкали выси дремлющих гор». Але калі ў Бальмонта гордае і адзінокае ўзвышэнне да нябеснага свяціла з'яўляецца ўзвышэннем індывідуалістычнай свядомасці, сімвалам адарванасці ад зямнога быцця, то Багдановіч імкнецца назад да чалавека, да зямлі, дзе адчувае сябе ўтульней і цяплей («І пануры, стамлёны, ўніз пайшоў я снягамі, — // Сонца там хоць і далей, але грэе цяплей!»).

У заключным вершы цыкла «Вольныя думы» з яго песімістычнымі матывамі марнасці чалавечага існавання («Шмат у нашым жыцці ёсць дарог, // А вядуць яны ўсе да магілы») адчуваецца найбольшая залежнасць паэта ад мадэрнісцкіх плыняў, хоць пэўны грунт гэтыя матывы мелі і ў рэальным жыцці, у настроях самога паэта. Але ў выніку відавочнай арыентацыі Багдановіча на тагачасную мастацкую практыку паэтаў рознай ідэйна-творчай пазіцыі і эстэтыкі філасофская аснова твора ўступала ў супярэчнасць з усёй змястоўнай гуманістычнай канцэпцыяй творчасці паэта, з ідэяй паўнаты і цэльнасці жыцця, арганічна ўвасобленай у лепшых творах пісьменніка. Багдановіч і сам адчуваў гэта, таму ён досыць крытычна ставіўся да ўласных вер-



Сям'я Багдановічаў.

КНІГАПІС




М. БАГДАНОВІЧ. Зорка Венера. Творы. Укладанне і прадмова А. Клышкі. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1991.

**Назву гэтаму тому выбранага Максіма Багдановіча даў раманс, яні наслыху ў кожнага, хто любіць і шануе роднае слова. Увогуле, укладальнік патрабавальна паставіўся да сваёй работы. У кнізе шырока прадстаўлена не толькі паэтычная спадчына класіка нацыянальнай літаратуры, а і яго апавяданні, нарысы, літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, лісты, чарнавыя накіды. У прадмове «Будзь тым, каго Беларусі не стае!» А. Клышка гаворыць аб месцы М. Багдановіча ў нашай літаратуры. Кніга выйшла ў палепшаным мастацкім афармленні і паліграфічным выкананні.**




М. БАГДАНОВІЧ. Вянок. Лірыка. На рускай мове. Укладанне і пераклад Б. Спрынчана. Для старэйшага школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1991.

**«Вянок» М. Багдановіча адрасаваны рускамоўнаму чытачу. Зроблены яшчэ адзін важны крок дзеля таго, каб паэтычнае слова Максіма-Кніжніка стала вядома тым, хто любіць прыгожае пісьменства. Пад адной вокладкай сабраны многія вядомыя творы М. Багдановіча-паэта. Застаецца спадзявацца, што з цягам часу набыткам чытачоў з іншых рэспублік стане таксама яго проза, нарысістыка, літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы.**

# «Быць можа я не скончу жыць...»

**Ці не самы музычны з нашых паэтаў, Максім Багдановіч пакіуў бясцэнны скарб кампазітарам, для якіх была, ёсць, будзе ягоная паэзія, ягоная асоба крыніцай творчага натхнення. «Зорка Венера» — варты самых высокіх слоў раманс Л. Рак-Міхайлоўскага. «Зорка Венера» — вартая ўдзячнай памяці опера Ю. Семянякі... Мала хто з кампазітараў не мае ў сваёй творчасці песні, ці мо раманса, а то і вакальнага цыкла, натхнёнага словам Паэта. Гэтае слова набыло новае жыццё ў музыцы М. Аладава, А. Багатырова, В. Помазава, А. Друкта, І. Лучанка, Г. Гарэлавай, С. Бельцюкова, Л. Захлеўнага, Я. Паплаўскага, І. Паліводы... Вядома, можна было б прадоўжыць гэты спіс, можна было б даць і прозвішчы тых выканаўцаў, якія з прыемнасцю ўключаюць у свой рэпертуар творы на вершы Багдановіча ці прысвячаюць яму свае канцэртныя выступленні. Але сёння гаворка не пра іхнія імёны...**

**А Багдановічава імя кожны ўспрымае пасвойму. Як тыя, каму давялося ладзіць нядаўні камерны канцэрт, прысвечаны 100-годдзю, паэта, пад час «Беларускай музычнай восені», так і ўдзельнікі вялікага святкавання ў гонар паэта, што адбудзецца ў Акадэмічным тэатры оперы і балета. Як студэнтка, будучая журналістка, што разважае сёння пра Багдановіча, так і яе суразмоўніцы...**

Слова беларускае.... Хараство і мілагучнасць, мяккасць і глыбіня, барвы святла і ценю... Заўжды ты з'яўляешся крыніцай натхнення паэтаў, мастакоў, музыкантаў. І кожны трактуе цябе як сваё, творчае, індывідуальнае, ды ўсё роўна — роднае, беларускае...

**Няяркая, маленькая вясёлка**
**Ўкруг месяца ледзь бачна зіхаціць;**
**Яе не кожны нават і прыкмеціць,**
**Хто ў гэты час на неба паглядзіць.**
**Няяркая, маленькая вясёлка! —**
**Праз гэта ты і даспадобы мне,**
**Бо я адну з табою долю маю —**
**Зіяць ледзь бачна ў сіняй вышыне.**

Гэта Максім Багдановіч. Незабыўны, непаўторны песняр. Мы аддаём даніну яго бліскучаму таленту, што раскрыў многія дзівосы беларускага пісьменства, узняў нашу літаратуру на п'едэстал высокай духоўнасці. Багдановіч — гэта штосьці асаблівае, нават унікальнае ў паэзіі, у жыцці, у свеце. Як растлумачыць, што ў свае 26 гадоў ён пакінуў творы, дзе з дзівоснай тонкасцю і глыбінёй перададзены любоўныя пачуцці, пейзажныя абразкі, філасофскія думкі пра жыццё, энергія барацьбы? Часцяком усё гэта адценена някідкімі беларускімі танамі, якія нагадваюць пра ўласнае нацыянальнае «я» паэта.

Чытаючы яго, здзіўляешся часам глыбокаму асэнсаванню праблем, што рэдка ўласціва маладому паэту. Уражвае, як многія з ягоных вершаў актуальныя і сёння — быццам напісаныя гадзіну таму. Няма сумневу, дар прадбачання—адна з асаблівых рысаў ягонай творчасці. Мабыць, тут ёсць нейкая заканамернасць, праява вышэйшай волі? Мабыць, у гэтым—загадка сапраўднага мастака, загадка, якая вымушае нас мысліць, уяўляць, разважаць, паглыбляцца ў чалавека, спрабуючы пазнаць невядомыя таямніцы?..

Мы з вамі — ягоныя чытачы. І гэта вялікае шчасце для паэта, калі мы знаходзім у ягонай паэзіі ці ў прозе водгук сваіх уласных адчуванняў, ці то патрыятычная ідэя, прасякнутая пафасам волі, ці то пяшчотная кветка лірыкі, незвычайная, як сама паэзія Багдановіча. Таму мне хочацца чытаць, чытаць ягоныя вершы, каб пачуць спеў душы ў далёкай цішыні мінулых гадоў...

Год Багдановіча падараваў нам нямала адметных святаў: былі вечары ды вечарыны, прайшлі канцэрты, прысвечаныя яму; мы можам завітаць «у госці» да паэта — у «Беларускую хатку». Вядома, што ягоная паэзія нейкім нябачным магнітам прыцягвае да сябе творчых людзей, асабліва музыкантаў. Прычына не толькі ў прыгажосці і праніклёнасці вершаў Багдановіча, але яшчэ і ў іх музычнасці. Кожны радок адразу ж кладзецца на музыку, быццам спецыяльна для гэтага і прызначаны. Вобразна кажучы, творчы пульс паэта біўся ў скрыпічным ключы, а танальнасць падказвалі падзеі.

Цікава, што думаюць кампазітары, якія пачулі гэтую музычнасць, перанеслі яе ва ўласную творчасць, звярнуўшыся ў свой час да вершаў Максіма Багдановіча?

Некалькі пытанняў да **Ларысы МУРАШКІ:**

**— Адкажыце, калі ласка, якая сувязь існуе паміж вамі, натурай музычнай, і Багдановічам, натурай паэтычнай?**

— Сувязь духоўная, заснаваная на любові да беларускай культуры. Я вельмі люблю і разумею ягоную творчасць, паэтычная думка Багдановіча блізкая мне. Галоўнае — гэта дзівосна тонкая музычнасць вершаў, прасякнутая беларускай інтанацыяй. Ягонае слова вядзе за сабой музыку. У вершах Багдановіча мяне прываблівае яркая вобразнасць, хаця мастацтва яго дваістае: спалучае ў сабе канкрэтную вобразнасць і абстрактнасць. Мне б хацелася яшчэ раз звярнуцца да Багдановіча, заглыбіцца ў псіхалагічную лірыку, — я думаю, што гэта будзе вакальны цыкл для жаночага голасу...

**— Ці кожны чалавек зможа зразумець Багдановіча?**

— Я думаю, што кожны, хаця зараз цяжка адказаць адназначна. Перш чым адкрыць людзям Багдановіча, трэба прывесці іх да роднай мовы, бо ўсялякую паэзію трэба чытаць у арыгінале. Навучыўшыся гэтаму кожны прыйдзе да паэта сам.

**— Што б вы пажадалі паэзіі Максіма Багдановіча ў наш цяжкі час?**

— Выжыць. Не быць забытай. Вельмі хацелася каб цяпер, калі ўсе заняліся вялікай палітыкай, побытам, эканамічнымі праблемамі, мастацтва выжыла і расквітнела.

Да размовы далучаецца **Людміла ШЛЕГ:**

**— Я не стану размяжоўваць паэзію і музыку. Сапраўдная музыка паэтычная, а сапраўдная паэзія музычная. Калі кампазітар піша музыку, яна абуджае нашы думкі. Рух думкі нараджае музыку... як вышэйшае разуменне паэзіі. Багдановіч жа і паэт і музыкант у адной асобе, я так скажу. Ён бачыў тое, чаго ніхто не хацеў бачыць, ён плакаў, ды мы гэтага не заўважалі... Невытлумачальная таямніца ягонай творчасці — любоў да прыроды, да планеты як катэгорыі жывой філасофіі. Песня ягонай душы лірычная і пранікнёная, яна праходзіла ўсе мерыдыяны чалавечай псіхікі, бо паэт ведаў жыццё да драбніц. Бо вывучыў яго праз песні, праз расповяды бабулі, праз падзеі ў родным краі. Ён зразумеў душу простага чалавека. І нам удасца зразумець паэта ў яго сапраўдным святле, калі экалагічна ачысціцца наша свядомасць. Я хацела б, каб паэзію Багдановіча разумелі паэты той зямлі, якая ўзгадавала гэты талент. Таму трэба, каб душы іх былі чыстыя і пазбаўленыя пошасці ды зямных «шлакаў». Толькі тады паэзія Багдановіча будзе ўспрынята належным чынам, толькі тады музыка стане калыскаю Слова.**

....Сёння, у дзень ягонага стагоддзя, я гляджу на партрэт, на жывыя праніклівыя вочы, разумны шырокі лоб, і здаецца мне, што не яго партрэт, а сам паэт дзесьці побач, сярод нас. Вось ён усміхнуўся, выгукнуў: «Мая душа, як ястраб дзікі, што рвецца ў неба на прастор!»—і чарада птушак памкнула ў неба над ім... Сын беларускай зямлі, ён зліўся з ёю ў неразрыўных абдымках, аддаючы сэрца, душу і свой магутны талент маці-Беларусі.

«Сэрца сціснецца, і я пяяць пачну....» Вось і радуе нас ягоная песня, працягваючы жыць у музыцы, у творах кампазітараў розных пакаленняў. Хай гучыць яна жыццесцвярджальным лейтматывам беларускай культуры, лейтматывам нашага Адраджэння.

**Марына МДЗІВАНІ.**

# Доказ ад процілеглага

**(Пачатак на стар. 8—9).**

твайго і ўбачыш коней і калясніцы, і народу больш, чым у цябе, то не бойся іх; бо з табою Гасподзь, Бог твой, які вывеў цябе з зямлі Егіпецкай.

Калі ж распачынаеце бітву, тады няхай падыдзе свяшчэннік і гаворыць народу...»

І скажа яму:

«Слухай, Ізраіль! вы сёння ўступаеце ў бітву з ворагамі вашымі: ды не аслабее сэрца ваша, не бойцеся, не бянтэжцеся і не жахайцеся іх, таму што Гасподзь, Бог ваш, ідзе з вамі, каб пазмагацца за вас з ворагамі вашымі і выратаваць вас».

Наглядчыкі ж няхай аб'яўляць народу, гаворачы: «Хто пабудаваў новы дом і не абнавіў яго, той няхай ідзе і вернецца ў дом свой, каб не памёр у бітве, і іншы не абнавіў яго. І хто насадзіў вінаграднік і не пакарыстаўся ім, той няхай ідзе і вернецца ў дом свой, каб не памёр у бітве, і іншы не пакарыстаўся ім. І хто заручыўся з жонкаю і не ўзяў яе, той няхай ідзе і вернецца ў дом свой, каб не памёр у бітве, і іншы не ўзяў яе».

І яшчэ аб'яўляць наглядчыкі народу, і скажуць: «Хто баязлівы і маладушны, той няхай ідзе і вернецца ў дом свой, каб ён не зрабіў баязлівымі сэрцы братоў яго, як яго сэрца».

Калі наглядчыкі скажуць усё гэта народу, тады трэба паставіць вайсковых начальнікаў у правадыры народу.

Калі падыдзеш да горада, каб зваяваць яго, прапануй яму мір...»

Як бачыце, дагэтуль усё гучыць прыстойна, я сказаў бы, нават гуманна. А далей?

«Калі ён пагодзіцца на мір з табою і адчыніць табе вароты, то ўвесь народ, які знойдзецца ў ім, будзе плаціць табе даніну і служыць табе».

Пакуль таксама ўмяшчаецца ў рамкі нават сучаснага гуманіста. А цяпер — увага!

«Калі ж ён не пагодзіцца на мір з табою і будзе весці з табою вайну, то асадзі яго. І калі Гасподзь, Бог твой, аддасць яго ў рукі твае, паразі ў ім увесь мужчынскі пол вастрыём меча. Толькі жонак і дзяцей, і худобу, і ўсё, што ў горадзе, усю здабычу яго вазьмі сабе, і карыстайся здабычай ворагаў тваіх, якіх аддаў табе Гасподзь, Бог твой».

Цікавы паварот, ці не праўда? А цяпер — найцікавае. Гаворка пойдзе пра гарады зямель, якія насялялі плямёны хацееў, амарэеў, хананееў, ферэзееў, явеяў, іевусеяў, што зніклі потым з твару зямлі. Тут мы маем зусім іншы падыход.

«А ў гарадах народаў гэтых, якіх Гасподзь, Бог твой, дае табе ў валоданне, не пакідай жывой ні адной душы, але аддай іх закляццю».

Гэта значыць, вынішчы ўсіх да аднаго: і мужчын, і жанчын, і старых, і дзяцей — так патрабуе Гасподзь.

Амерыканец прыгнечана змоўк, а Рускі, выкарыстоўваючы паўзу, прамовіў:

— Зноў нагадвае адну ваяўнічую песню, якая суправаджала рытуальны танец «Перад боем» аднаго са старажытных плямён Новай Каледоніі.

— Нападаем мы на нашых ворагаў?
— Так.
— Ці ж моцныя яны?
— Не.
— Ці мужныя яны?
— Не.
— Мы іх заб'ём?
— Так.
— Мы іх з'ядзім?
— Так.

— Ваша праўда,— ажывіўся Амерыканец.— Здзіўляюча тое, што ўжо ў наступным 21 раздзеле падаецца сцэна дыяметральна супрацьлеглая папярэдняй. Нейкая справа Дрэйфуса на фоне масавых забойстваў без суда і следства. Паслухайце.

«Калі на зямлі, якую Гасподзь, Бог твой, дае табе ў валоданне, знойдзены будзе забіты, што ляжыць на полі, і невядома, хто яго забіў: то няхай выйдуць старэйшыны твае і суддзі твае, і змераюць адлегласць да гарадоў, якія вакол забітага; і старэйшыны горада таго, які акажацца бліжэйшы да забітага, няхай возьмуць цяліцу, на якой не працавалі і якая не насіла ярма, і няхай старэйшыны таго горада адвядуць гэтую цяліцу ў дзікую даліну, якая не распрацавана і не засеяна, і заколюць там цяліцу ў даліне; і прыйдуць свяшчэннікі, сыны Левіны; і ўсе старэйшыны горада таго, што бліжэй да забітага, няхай абмыюць рукі свае над галавою цяліцы, якую зарэзалі ў даліне, і аб'яўяць і скажуць: «Рукі нашы не пралілі крыві гэтай, і вочы нашы не бачылі. Ачысці народ Твой, Ізраіля, які Ты, Госпадзі, вызваліў, і не пастаў у віну народу Тваймму, Ізраілю, нявіннай крыві». І яны ачысцяцца ад крыві. Так павінен ты змываць у сябе кроў нявіннага, калі хочаш рабіць дабро і справядлівае перад вачыма Госпада».

Яшчэ ў маладыя гады, чытаючы гэта, я пытаўся ў сябе: «Няўжо наш Вярхоўны Суддзя мог асвяціць такое беспардоннае ханжаства і крывадушнасць, асвяціць навекі, да нашых дзён? Я думаю, і вы на аснове вашага вопыту падтрымаеце маё сцверджанне: да нашага сённяшняга і заўтрашняга дня! Ведаеце, мне гэта маё галоўнае адкрыцце не дае магчымасці верыць у нашы намаганні ў справе разрадкі. Логіка тут простая. Усе нашы малітвы аб міры — гэта тое, што выкладзена ў раздзеле 21 Пятай кнігі Маісея, а нашы практычныя дзеянні — тое, што ў папярэднім раздзеле. І тое, і другое санкцыянавана Звышы. У нашай пабудове прадугледжана Эксперыментам... Вельмі прашу вас знайсці якую-небудзь альтэрнатыву, разумную альтэрнатыву. Хаця б для мяне асабіста...

У просьбе Амерыканца чулася штосьці такое, што прымусіла Рускага задумацца ўсур'ёз і надоўга.

Цемра згушчалася. І ён пачаў гаварыць, калі ўжо зусім зрабілася цёмна.

— Мне здаецца, што гэтая частка нашай з вамі гаворкі стаіць асобна, як раздзел «Вялікі Інквізітар» у «Братах Карамазавых». Каб пазбегнуць легкаважнасці, нададзім ёй канструктыўны характар і пачнём з канстатацыі відавочнага для нас абодвух. Па тых вострых пытаннях, якія вы ўзнялі, чалавецтва не можа параіцца з кімсьці і чакаць з гэтай нагоды сігналы з космасу. Бесперспектыўна, калі гаворка не ідзе пра такую ж, як у нас, цывілізацыю. Але нават такі абмен інфармацыяй наўрад ці прадугледжаны Эксперыментам.

# БУКЕТ НА ФОНЕ БУДЗЁННАСЦІ

## Фестываль-конкурс імя М. К. Агінскага

Зараджэнне новага фестывалю — з'ява далёка не ардынарная. Адраджэнне забытага і жаданне стасавацца, абменьвацца вопытам,— вось што вызначыла ідэю фестывалю-конкурсу імя М. К. Агінскага. А прайшоў ён, як паведамлялася, у Смаргоні, горадзе, ад якога недалёка і Залессе, дзе некалі жыў кампазітар. Многія ведаюць яго толькі як аўтара паланеза «Развітанне з радзімай». І вырашылі арганізатары фестывалю-конкурсу пазнаёміць жыхароў горада з творчасцю земляка. Вось і адбылася гэтая падзея, як глыток свежага паветра на фоне пагрозы экалагічнай катастрофы, бескультур'я і бездухоўнасці, як выратавальная памяць пра непераходныя асновы і каштоўнасці жыцця, як яркі букет на фоне шэрых фарбаў масавай культуры.

Фестываль працягваўся толькі 2 дні, але і за такі кароткі час падарыў шмат прыемных хвілін і ўдзельнікам, і гледачам. Па трох спецыяльнасцях праходзіў конкурс: фартэпіяна, струнныя інструменты і ансамблі. Удзельнічалі выхаванцы музычных школ Смаргоні, Маладзечна, Ліды, Вілейкі, Слоніма, Шчучына, іншых гарадоў. Праграма кожнага ўдзельніка павінна была складацца з п'есы М. К. Агінскага і другога твора — на выбар канкурсанта. Таму, акрамя прыгожай музыкі Агінскага, у зале прагучалі творы І. -С. Баха, Л. Бетховена, П. Чайкоўскага, Д. Шастаковіча, К. Дэбюсі, Э. Грыга, Ф. Шуберта. Выканаўцы — толькі навучэнцы музычных школ, а раней жа такога творчага спаборніцтва для іх не існавала. Былі, канечне, конкурсы ў рамках школ, але сустрэцца і паслухаць сваіх равеснікаў з іншых гарадоў даў магчымасць толькі гэты — у гонар Агінскага.

Ініцыятарам давялося наладзіць і распаўсюджанне нотнага матэрыялу, і дзякуючы гэтаму на конкурсе гучалі паланезы, вальсы, мазуркі Агінскага, аматары музыкі змаглі, нарэшце, пазнаёміцца з ягонай творчасцю. У выкананні Вікі Пустырскай з Вілейкі прагучаў паланез Фа мажор, вядомы пад назвай «Падзел Польшчы», зачароўваючы слухачоў гнуткай арнаментальнасцю «пявучых пасажаў», якімі пачынаецца твор. Пачулі гледачы і рамантычны Фа мінорны паланез з яго гераічным пафасам, і паланез Сі мажор, у якім арганічна спалучаюцца фанфарныя гучнасці, якія выклікаюць у памяці баявыя паходы польскіх паўстанцаў, з лірычнымі напеўнымі мелодыямі.

Святочная цёплая атмасфера ўсталявалася ў першы ж дзень, на цырымоніі адкрыцця фестывалю. У паўзмроку загучала музыка знанага Ля мінорнага паланезу, адкрылася заслона і на сцэну выйшлі... лакеі з падсвечнікамі і запаленымі свечкамі. Ансамбль песні і танца імя Агінскага горада Смаргоні выканаў паланез. Былі на свяце і госці, у ліку якіх — камерны аркестр народных інструментаў выкладчыкаў Маладзечанскага музычнага вучылішча пад кіраўніцтвам Г. Сарокі і навучэнцаў Музычнага ліцэя пры БДК. У далейшым жа ініцыятары конкурсу маюць намер запрашаць у якасці ўдзельнікаў юных музыкантаў з Польшчы і дзяржаў Прыбалтыкі.

Досыць аўтарытэтнае журы складалася з прадстаўнікоў Мінскага, Маладзечанскага, Лідскага музычных вучылішчаў, ліцэя пры БДК і дырэкцыі Смаргонскай ДМШ. А ўзначаліла яго работу А. Гужалоўская, намеснік дырэктара музычнага ліцэя. Складаная задача — з вялікай колькасці ўдзельнікаў выбраць самых яркіх і самабытных. Але вось і названы пераможцы: Вольга Мароз, вучаніца 2 класа Смаргонскай ДМШ (выкладчык В. Шоць), Таццяна Сарока, вучаніца 7 класа сектара педпрактыкі пры Маладзечанскім музвучылішчы (выкладчык І. Багачова), Валерый Каспяровіч, васьмікласнік Ашмянскай ДМШ (выкладчык М. Хадаровіч). Гэта — піяністы. А вось імёны іншых пераможцаў: струнныя інструменты — Ганна Грыц са Смаргоні, фартэпіянны дуэт Кацярына Смолік і Таццяна Пераралава з Вілейкі і ансамбль скрыпачоў Смаргонскай ДМШ. Спонсарамі фестывалю быў прызначаны прыз за лепшае выкананне твора Агінскага — прыз атрымала Таня Сарока. Як самая юная ўдзельніца конкурсу адзначана Аня Грыц, а ўладальнікам прыза за лепшае выкананне твораў беларускіх кампазітараў стаў фартэпіянны дуэт з Вілейкі.

Урачыстым і святочным было выступленне на заканчэнне фестывалю хору імя М. К. Агінскага пад кіраўніцтвам А. Лях. Гэты калектыў ужо не раз радаваў гараджан на розных фэстах сваім высокім прафесійным узроўнем. І цяпер яго выступленне арганічна ўплялося ў агульную святочную атмасферу. Бо, акрамя славалюбівага духу саперніцтва, азарту барацьбы, гэты фестываль несумненна каштоўны цеплынёй чалавечых узаемаадносін, нязмушанасцю эмоцый удзельнікаў і гасцей і, вядома, аднуваннем бязмежнай адданасці музыцы, якая зближае ўсе пакаленні людзей, далучаных да гэтага свята. Немалую ролю ў гэтым адыграў гарадскі аддзел культуры на чале з А. Шыцікавай.

Асабліва прыемна, што фестываль нарадзіўся ў час, калі стаўленне да сур'ёзнай музыкі ў грамадстве (асабліва ў маладзёжным асяроддзі) змяняецца не ў лепшы бок. Калі ў выніку скажонага разумення эстэтычнага выхавання канцэрты класічнай музыкі праводзяцца ў абедзенны час на прадпрыемствах, дзе сядзяць рабочыя ў спяцоўках, і пасля ўрокаў у школах, калі вучні ў форменках мараць толькі пра абед. Таму бездухоўнасць распаўсюджаная, на жаль, гэтак шырока... Дык нягледзячы на выказванні песімістаў, што фестывалі — «баль сярод чумы», яны робяцца важным звяном у ланцугу эстэтычнага выхавання моладзі: на конкурсе прысутнічала вельмі шмат школьнікаў. Калі ўдасца стварыць і рэалізаваць сістэму дзейснага эстэтычнага выхавання, тады, я ўпэўненая, ужо не давядзецца з горыччу гаварыць пра напаўпустыя залы на фестывальных канцэртах.

**Вольга КУРАЧКІНА,**
**студэнтка музычнага вучылішча.**

г. Маладзечна.



**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

## Перад адкрыццём помніка Максіму Багдановічу

**Намяло, натрусіла з хмар**
**(Многа летаў, а болей зімаў),**
**І хусцінкай каменны твар**
**Выціраюць старанна Максіму.**

**Да прыгожай яго галавы**
**Узняліся ажно на кране.**
**І задумаўся ён, як жывы.**
**(Паглядзела б Какуева Аня!)**

**Можа, ўспомніў вязьмо нягод,**
**Дзень апошні**
**(хіба ён марыў!!),**
**Калі нават смяротны пот**
**Не было каму выцерці з твару.**

**А цяпер жа!**
**З гнязда свайго**
**Як святочна ўспырхнула слава!**
**Вунь, скланяюць імя яго**
**І далёка, і злева, і справа...**

**Як прачнуліся!**
**Боль працяў**
**І мяне, і мяне, Максіме:**
**Шмат імён узнялі з забыцця,**
**Колькі з праху яшчэ узнімуць!**

**Ты гатовы ўжо. Змецены снег.**
**Урачыста зляціць пакрывала...**
**Мне здалося: глядзіш на мяне,**
**Каб і я,**
**каб і я памятала.**

1981 г.

Амерыканец кіўнуў галавой, але гэтага ўжо не было бачна.

— Далей. Спробы разгадаць шыфр самога Кіраўніка Эксперымента тым больш не маюць перспектывы: дзеля гэтага трэба знаходзіцца на адным з ім інтэлектуальным узроўні, а гэта наогул выключана. Нарэшце, варожасць сама па сабе шматпланавая. Дыяпазон—ад Мантэкі да Капулеці да «футбольнай» вайны паміж дзвюма дзяржавамі. Лічыць, што ўсе яны спрагназаваны Звыш — наіўна. Відавочна, у Эксперыменце маюцца зоны, так сказаць, свабоднага развіцця... А цяпер пра галоўнае, пра «галоўныя» войны, генацыд, паляванне на ведзьмаў, пакаранні «па вышэйшай катэгорыі» ворагаў народа... Гэта зона не можа быць вольнай. Значыць, яна спланавана. Але з якой мэтай?

— З якой мэтай? — адазваўся з цемры Апанент.— Ды проста панаглядаць, як паводзяць сябе павукі ў слоіку...

— Такі варыянт выключаны, — цвёрда заявіў Рускі.—Эксперымент «павукі ў слоіку» — звычайнае забойства з прымессю самаапраўдальнага ханжаства, уласцівага гома сапіенсу. Абсалютны Розум вольны ад падобных эмоцый. Забойства пад любым соусам не можа быць Мэтай. І тут не можа быць нейкага прамежкавага варыянта, бо лёгка праглядваецца, што любы такі варыянт — таксама забойства. Застаецца — н е з а б о й с т в а, і трэцяга тут не дадзена! Цяпер застаецца сумясціць усё, пра што вы гаварылі, з ідэяй, на першы погляд парадаксальнай, якая зусім не ўпісваецца ў Біблію (у Ветхі Завет па крайняй меры), ідэяй практычнага бяссмерцця (я маю на ўвазе не толькі душу!) чалавечага індывідуму, яго н е з а б о й с т в а м. А для гэтага трэба вырашыць усяго адну вельмі маленькую праблему: каб чалавек не забіваў самога сябе! Мне вельмі спадабалася адна Ваша думка пра чысціню Эксперымента з дыназаўрамі. Пераўтварэнне гэтых гігантаў з грозных драпежніаў у бяскрыўдных траваядных — не толькі вялікае дзіва, але і знамянальны прэцэдэнт.

— Вы так лічыце!—глуха прагучала ў цемры.

— Я ўпэўнены,— цвёрда прамовіў Рускі. У Кароткі тэрмін мы эвалюцыянуем ад канібалізма да сусветнага брацтва і вегетарыянства. Спачатку ў пераносным, а затым і ў прамым сэнсе. У гэта трэба верыць! Я мог бы абгрунтаваць гэты тэзіс нават вашымі тэалагічнымі сродкамі. Скажам, параўнаннем Ветхага і Новага Заветаў. Але лепш зрабіць гэта вам. Я ж адкажу на пытанне, дакладней — на два пытанні, якія мучылі мяне і многіх маіх суграмадзян, і якія, як мне здаецца, могуць узнікнуць і ў вас... Першае пытанне такое. Ці мог быць гэты эвалюцыйны шлях, а ён яшчэ зусім не закончаны, быць менш жорсткім. А калі ён арганізаваны звонку, то ці мог быць арганізаваны з меншымі крыўдамі для людзей? Усё-такі дзве страшныя сусветныя вайны, а для нашай краіны яшчэ і грамадзянская, культ асобы. Сёння ў нас часта гавораць: «Можна было пазбегнуць...» Мне хацелася б сказаць па-іншаму. Пазбегнуць у прынцыпе можна было. Але з рызыкай пакінуць чалавека ў ранейшым стане — патэнцыяльнага драпежніка і нават братазабойцы, прычым закамуфляванага і пад выратавальніка нацыі, і пад бацьку народаў, і пад самага паслядоўнага змагара за ідэі гуманізму. Нялёгкая гэтая справа, выпрацаваць ва ўсім чалавецтве і ў кожнага індывіда на векі вечныя пагарду да драпежніцтва і тыраніі. У мяне дык наадварот, ствараецца ўражанне, што цана магла б быць і больш цяжкай. Знаходзячыся ў цвярозым стане (а я не п'ю ні кроплі спіртнога вось ужо больш за 26 гадоў), я гавару дзякуй Эксперыментатару.

Другое пытанне, асабліва высвечанае вашай суайчынніцай Аленай Вайт, нам з вамі лепш сфармуляваць так. Ці былі на гэты конт якія-небудзь дастаткова рэальныя Папярэджанні, Знакі зверху, так бы, у бязбожным варыянце — якія-небудзь Адкрыцці, прасцей кажучы, прадчуванні простых смертных? Думаю, што былі. І зноў з задавальненнем апелюю да вашай думкі пра даўгажыцце тыранаў і кароткі век паэтаў. Мне гэтая думка асабліва блізкая. Пры дзённым святле я ні за што не прызнаўся б, а цяпер цёмна і мне не гэтак сорамна. Мне 58 гадоў, але я яшчэ пішу вершы... Таму, мабыць, я так люблю паэтаў і ненавіджу тыранаў. Тыраны — народ недалёкі. Цімучын, напрыклад, верыў, што ніколі не памрэ. Нават марксіст Сталін загадаў пакараць смерцю доктара, які сказаў праўду пра яго хваробы. Хацеў і такім чынам адцягнуць канец. Неразумна і агідна!.. А вось у паэтаў усё па-іншаму. Нават ведаючы дакладна пра сваю блізкую смерць (тут маюцца, як у Пушкіна, надзіва дакладныя прадбачанні), яны журыліся не пра сябе, а імкнуліся перадаць людзям тое, што бачылася адным ім праз магічны крышталь... Па нацыянальнасці я не зусім рускі. Напалову я беларус.

— Гэта ж адно і тое? — пачулася з цемры.

— Амаль. Адрозненне, відаць, у тым, што рускіх паэтаў ведае свет, а беларускіх — не. А ў нас былі вялікія паэты. І першы сярод іх — наш беларускі Лермантаў — Максім Багдановіч. Вы, канешне, пра яго нічога не чулі. А дарма! Мне цяпер успомніўся адзін яго верш, які пісаўся ў 1912—1915 гадах. Незадоўга перад сваёй ранняй смерцю паэт звяртаецца непасрэдна да вас.

— Да мяне? — здзівіўся Амерыканец.

— Так. Пры гэтым здзіўляюча проста і зусім лепш, чым я, выражае ваша г а л о ў н а е с у м н е н н е. Паслухайце.

**Я хацеў бы спаткацца з вамі на вуліцы**
**У ціхую сінюю ноч**
**І сказаць:**
**«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,**
**Ясныя зоркі Геркулеса?**
**Да іх ляціць наша сонца,**
**І нясецца за сонцам зямля.**
**Хто мы такія?**
**Толькі падарожныя, — папутнікі сярод нябёс,**
**Нашто ж на зямлі**
**Сваркі і звадкі, боль і горыч,**
**Калі ўсе мы разам ляцім**
**Да зор?»**

— Мак-сім Баг-да-но-віч? Я запомню гэта імя,— сказаў Амерыканец.

Затым ён намацаў у цемры хударлявую руку рускага Беларуса і моцна пацiснуў яе.

Пераклаў з рускай Уладзімір ПАЎЛАЎ.

# ВЯНОК ЖЫВЫХ, ПРАРОЧЫХ ДУМ

...Часам доля злая жартаўніца: чалавек узбагаціўся ведамі, думкамі, але яму адмоўлена ў часе, каб гэта ажыццявіць, даводзіцца ісці з жыцця заўчасна. Максім Багдановіч, як вядома, сустрэў усяго дваццаць пяць вёсен. Астатнія дні правёў у Ялце, куды пагнала яго цяжкая хвароба лёгкіх. І пакінуў ён сучаснікам на развітанне адзіны зборнік вершаў «Вянок», склаўшы яго са сваіх дум. І ці не галоўнаю была думка пра свой край, свой народ:

**Беларусь, твой народ дачакаецца**
**Залацістага, яснага дня.**
**Паглядзі, як усход разгараецца,**
**Колькі ў хмарках залётных агня...**

Гэтай жа думкай прасякнуты многія іншыя вершы паэта. З адзінай верай напісаны яны— народ дачакаецца новага, светлага дня. А недзе за пяць гадоў да гэтага твора быў напісаны «Пан і мужык»:

**Дзякуй, пане, бо пазнаў ад вас і я,—**
**Не на трох кітах трымаецца зямля.**
**Згода, згода, бо здаецца неяк мне,**
**Што стаіць яна на нашай жа спіне.**

Сацыяльная несправядлівасць выказана гэтак эканомна, коратка, выразна.

Але нават адчуваючы цяжар хваробы, няскораны, яшчэ за год-паўтара да смерці ён знаходзіў настрой для вясёлай, жыццярадаснай «Лявоніхі». Дзяўчына, першая ў танцы, незвычайнай красы песнялюбка, да таго ж і працавітая:

**А калі ты жаці станеш свой загон,**
**Аж дзівуецца нядбайліца Лявон.**

Агністы танец, полымная жартаўлівая песня насуперак усяму. Народная мудрасць — перажыць гора, перамагчы яго. Паэт умеў добра услухацца і ў мову прыроды, ён слухаў у цішыні і чуў, як расла трава:

**Бачу я, з прыродай зліўшыся душой,**
**Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,**
**Чую ў цішы, як расце трава.**

Бязмерная пяшчота душы паэта. І вялікая сіла перажыванняў — зноў жа за свой народ, за яго дачок — слуцкіх ткачых, што вымушаны працаваць у панскім двары. Ім загадана выткаць залатыя паясы з персідскімі ўзорамі... Але:

**Цямнее край зубчаты бора...**
**І тчэ, забыўшыся, рука,**
**Заміж персідскага узора,**
**Цвяток радзімы васілька.**

Любоў да роднай песні і роднай зямлі, пашана да вечнага песняра ўкраінскага народа, артыкулы пра яго...

Акрамя беларускай мовы, М. Багдановіч свабодна валодаў рускай і перакладаў вершы Т. Шаўчэнкі, І. Франка ды свайго Янку Купалу пераствараў па-руску. Падуладна яму была паэзія Пушкіна і Гейнэ, перакладаў таксама Верхарна, Верлена...

Ён балюча перажыў смерць Сяргея Палуяна і пагадзіўся з думкай, што ўсё знікае на зямлі, а светлы след дзеяча і пісьменніка не губляецца:

**Так свабодна, так ярка пражыць —**
**Лепшай долі няма на зямлі:**

**Усё кругом на мамент асвяціць**
**І пагаснуць у цёмнай імглі.**

**Усё знікае, праходзіць, як дым,**
**Светлы ж след будзе вечна жывым.**

Гэтыя радкі добра стасуюцца і да самога аўтара.

...Калі выпадкова пачую жартаўлівую беларускую песню ці ўбачу дзяўчат, якія весяляцца пад гукі цымбал, так і чуецца мне:

**Ах, Лявоніха, Лявоніха мая!**
**Спамяну цябе ласкавым словам я...**

Яго, Багдановічавы, словы з верша «Лявоніха».

...Мы разам з Пятром Прыходзькам прыгадалі аднойчы Максіма ў Крыме, дзе пахаваны ён. Да марскіх хваляў тужліва прыпадалі чайкі. І тады напісалася:

## Максім Багдановіч у Ялце

**Блакитні хвилі, сонця повені,**
**Краса морськоі сторони,**
**Від зору хворого не сховані.**
**Але поблякли вмить вони;**

**Бо долинають звуки зболені**
**Далеких вьосок, хуторів,**
**І голоси людей знедолені, —**
**Для них ще світ не зазорів.**

**Та віриться — прийде заквітчана,**
**Омріяна весна для всіх,**
**І рідна Білорусь, як дзівчіна,**
**Розсипле, наче щастя, сміх...**

**Цимбалів долинае золото**
**І промінець сліпить в'очу...**
**О як звестись би й рушить молодо**
**І находитись досхочу!**

**І наспіватись, надивитись**
**На рідну землю, милий світ...**

**...І змовкнув Білорусі витязь.**
**«Вінок» лишив, як «Заповіт».**

...Вянок жывых, прарочых дум.

**Алэкса ЮШЧАНКА.**

# ГЕНІЯЛЬНАЯ ПАМЫЛКА ПАЭТА

На мой погляд, самы лепшы твор нашага класіка літаратуры — гэта сусветна вядомы верш «Слуцкія ткачыхі», напісаны ў 1909 годзе. Прайшлі тры гады, і М. Багдановіч зрабіў яшчэ адзін варыянт «Слуцкіх ткачых». Які з іх больш прывабны, не магу адказаць. Яны аднолькава мне любыя! І кожны з іх кранае і хвалюе маё сэрца і душу!

Але мой любы паэт, стварыўшы геніяльны верш, сам таго не ведаючы, зрабіў памылку. Яго жыццё ў Ніжнім Ноўгарадзе паўплывала на гэта. У Расіі залатым ткацтвам амаль паўсюдна займаліся толькі жанчыны. І калі ён упершыню ўбачыў цуд сваёй «краіны-бранячкі», то ў яго міжволі нарадзілася:

**Ад родных ніў, ад роднай хаты**
**У панскі двор дзеля красы**
**Яны, бяздомныя, узяты**
**Ткаць залатыя паясы.**

Між тым, у Слуцку ўсё было па-іншаму. Сусветна вядомыя паясы, якія цяпер упрыгожваюць лепшыя музеі Парыжа, Нью-Йорка, Санкт-Пецярбурга, Масквы, Мінска, Амстэрдама, Лондана, Варшавы, Кракава, Львова, Вільні, Гародні, Кіева і іншых гарадоў, рабіліся не жанчынамі.

«К 1760 г. у Слуцку мелася абсталяванне, працавалі кваліфікаваныя спецыялісты і «хлопцы», якіх па ўмовах вышэйназванага кантракта павінны былі «вывучыць дасканала той рабоце персідскай» («Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—XVIII стагоддзяў». (Мінск, «Беларусь», 1984 г., ст. 13). Вядомы і некаторыя майстры-мастакі, акрамя бацькі і сына Яна і Лявона Маджарскіх, Іосіф і Васіль Барсукі, Міхаіл Барацэвіч, Томас Хаецкі, Канчыла Лейка і іншыя.

Я гляджу на слуцкія паясы і, як у паэта, маё сэрца чуе:

**Там шчыры бор шуміць сувора...**
**Ты тчэш, бязвольная рука,**
**Заміж персідскага узора**
**Цвяток радзімы васілька.**

Цудоўны верш! Славутыя слуцкія паясы! І геніяльная памылка Багдановіча зрабіла яго яшчэ больш родным, народным! І па ўсёй Беларусі і ў свеце гучыць песня «Слуцкія ткачыхі»!

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член**
**Геаграфічнага таварыства**
**пры Акадэміі навук СССР.**

г. Баранавічы.

# Весткі з СМД

Дзякуючы адладжаным творчым кантактам паміж Музычным таварыствам імя Г. Вяняўскага (Польшча) ды Саюзам музычных дзеячаў Беларусі, адбыўся паспяховы дэбют беларускіх музыкантаў на V Міжнародным конкурсе маладых скрыпачоў імя Г. Вяняўскага і К. Ліпіньскага ў Любліне. Дыпламантам гэтага аўтарытэтнага конкурсу стаў навучэнец Музычнага ліцэя пры Белдзяржкансерваторыі Віталь Хандрас (клас А. Янпольскага).

●

Саюзам музычных дзеячаў супольна з БДК ды Беларускім інстытутам праблем культуры арганізаваны курсы вышэйшага выканаўчага і педагагічнага майстэрства па класе «трамбон». Пад кіраўніцтвам прафесара Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі В. Сумеркіна слухачы курсаў — педагогі музычных вучылішчаў рэспуб- азнаёміліся з праблемамі методыкі і сучаснага выканальніцтва.

●

Створана яшчэ адно творчае фарміраванне ў сістэме СМД Беларусі — асацыяцыя прафесійных выканаўцаў і педагогаў сучаснага ды конкурскага танца. Яе прэзідэнтам абраны лаўрэат усесаюзных і міжнародных конкурсаў Міхаіл Бірун.

**Н. ВІТЧАНКА.**

# Вечарына двух песняроў

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася вечарына, прысвечаная беларуска - польскім пісьменнікам А. Вярыгу-Дарэўскаму і В. Каратынскаму ў сувязі з іхнімі юбілеямі — адпаведна 175-годдзем і 160-годдзем з дня нараджэння.

Пра іх жыццё і творчасць расказаў Г. Кісялёў. Прагучалі вершы, напісаныя А. Вярыгам-Дарэўскім і В. Каратынскім па-беларуску, пераклады з польскай мовы, вершаваны запіс У. Сыракомлі ў «Альбом» Вярыгі-Дарэўскага (адшуканы, дарэчы, Г. Кісялёвым). «Гутарка старога дзеда», якая большасцю даследчыкаў прыпісваецца пяру В. Каратынскага.

На запрашэнне арганізатараў адгукнуліся супрацоўнікі літаратурных музеяў Я. Купалы і Я. Коласа, студэнты Інстытута замежных моў, навучэнцы педвучылішча № 2 і беларускага ліцэя, вучні школы № 44 г. Мінска.

**В. ЛЕЦКА.**

# «УВЕСЬ ЧАС ПАТРАБУЮЦЦА ЗВЫШВЫДАТКІ ДУХОЎНЫХ СІЛ»

(Пачатак на стар. 5).

**— Але, не зважаючы на звыклыя для адраджэнцаў «тэхналагічныя», матэрыяльныя «болькі», асветную работу трэба працягваць. Як жа вы на факультэце знаходзіце раўнавагу паміж Сцылай матэрыяльнага і Харыбдай духоўнага?**

— Было б, вядома, адмыслова, каб кожны факультэт меў эканамічную незалежнасць. Асабліва ў час станаўлення— за ўсё трэба плаціць. За якасную тэхніку, бо культуру на пальцах не пакажаш. За стварэнне творчых лабараторый і майстэрань народных рамёстваў, бо што значыць паспяхова засвоіць курс факультэта беларускай філалогіі і культуры? Гэта значыць мець трывалыя веды і ўстойлівыя навыкі іх практычнага прымянення ў прафесійнай дзейнасці. Плаціць трэба за літаратурную гасцёўню, абсталяванне, фарміраванне якаснай бібліятэкі, здабыванне і капіраванне архіўных матэрыялаў і г. д.

А яшчэ хацелася б завесці які-небудзь «салон прыгожых манер». Хлопцаў у нас мала, майстэрству рыцарскага фехтавання вучыць не даводзіцца, а вось дзяўчатам арганізаваць семінар, дзе б яны прафесійна знаёміліся з напрамкамі моды, культуры прычоскі, нават проста—грацыёзнай паходкі і ўмення трымаць сябе перад аўдыторыяй—такі семінар утварыць варта. Дзеці часта капіруюць сваіх настаўнікаў, дык няхай жа капіруюць прыгожае.

Але ўсемагутныя грошы хутчэй за ўсё праглынуць добрыя планы. Ашчэраная зеўра рынку згубная для культуры, калі на тое не будзе дастатковых высілкаў дзяржавы. А дзяржава наша слабая, глеба да мецэнацтва яшчэ не выстаялася. А таму застаецца адзіны «ідэалістычна-рамантычны» сродак: выхаванне цераз адухоўленасць пазнання роднага краю.

**— Улічваючы апрыёры зададзеную неардынарнасць факультэта, нават элітарнасць, хацелася б уведаць, якім чынам вы вырашаеце праблему з выкладчыкамі. Бо гісторык Мікола Ермаловіч і палітолаг Анатоль Сідарэвіч у нас адны на ўсю рэспубліку... А настаўніцтву, якое вы марыце ўзгадаваць, шмат чаго й непатрэбна са старой «ідэалагічнай» спадчыны, найперш — міфаў абэцэдаршчыны...**

— Я разумею унікальнасць Міколы Ермаловіча, ведаю цану Анатолю Сідарэвічу, але ці варта так спрашчаць? І справа не ў тым, адны яны ці не: у кожным раёне Беларусі і ў кожным куточку можна сустрэць шчырага рупліўца. Справа, аднак, заключаецца ў тым, што ўсе— ды паасобку, па адзіночцы. Чаму беларускі рух разбіўся «паштучна» — пытанне вялікай асобнай гаворкі.

Але я разумею і трывожна-клопатны падтэкст пытання. З кадрамі, гэта ведаюць усе, справа кепская—і ў акадэмічных флагманаў, і ў сярэднеадукацыйных шлюпак. ВНУ штогод даюць нямала выпускнікоў і — як у пясок, раствараюцца без прыкметнага знаку. Прычына, мусіць, тая, што ў нас вельмі тонкі пладаносны слой інтэлігенцыі. Прафільтраваныя навучальнымі ўстановамі ў духу бальшавіцкай веры, пралетарскага цара і абэцэдаршчыны, маладыя людзі станавіліся на дзяржаўную службу, а штодзённая дзяржаўная муштра зазвычай дабівала і тыя кволыя парасткі свядомасці, што з большым ці меншым поспехам закідваліся ў душу сейбітамі «разумнага, добрага, вечнага». Імперскай дзяржаве гэта было страшэнна зручна. Лічы, дармавая рабочая сіла кідалася ў пошуках выйсця туды-сюды, але ўсюды ўпіралася ў безвыходнасць: наўкол была адна манапольная ўстанова, а дзяржаўная служба ў гэтай установе нагадвала агромністую прыгонную кабалу. Выпускнік, ашчаслівены дыпломам, тут жа трапляў пад ярмо інтэлектуальнага і службовага прыгону. Вяртаючыся да аднаго з вашых пытанняў, паправімся: прыгонная гэта была інтэлігенцыя, а не плебейская. Прыгоннае існаванне спараджала і сваю правінцыйна-прыгонную псіхалогію. А тут яшчэ дзяржаўная афіцыёзная прэса дзесяткамі гадоў свядома большую ўвагу ўдзяляла жывёлагадоўлі, чым чалавечаму духу. Вось і ўзнікла дзікунскае супрацьстаянне: ці кілбаса, ці—мова. Як быццам адно абавязкова павінна выключаць другое. А калі ёсць супрацьстаянне, то ўзнікае неабходнасць выбару. Я не асуджаю тых, хто, скалечаны жабрацкім існаваннем, падсвядома пацягнуўся да кілбасы. Я асуджаю тых, хто на кілбасе купіўся.

**Так** мы не можам «людзьмі звацца»! Іншы Купалаў герой казаў: трэба разбіць спрадвечную ману, што мы—не ёсць мы, што мы нешта нейкае, як быдлё, якое накарміў, дык і сыта будзе... Абэцэдаршчына ж небяспечная не толькі самім фактам ідэалагічнай фальсіфікацыі гісторыі, колькі духоўным самаедствам, паглынаннем саміх сябе ў імя гэтай «спрадвечнай маны». Гэтая сістэма сацыяльнай міфатворчасці заснавана на выкарыстанні найперш нацыянальных кадраў, а таму— доўгажывучая. Карані яе традыцыі працінаюць тоўшчу многіх стагоддзяў, і адным мэнтам духоўная касабокасць выпраўлена быць не можа. Таму і настаўнікі павінны быць выпрабаваны гісторыяй—залатым скарбам духоўнай моцы Беларусі. Спадзяюся, што зразумела, пра якія постаці вядзецца гаворка.

Арыентавацца трэба на іх, і было б найвялікшым бахвальствам сцвярджаць, што справімся сваімі сіламі. І нават сіламі навуковай грамадскасці Рэспублікі. Увогуле патрэбен рознабаковы пагляд. Таму мы і замыслілі нетрадыцыйны лекторый па беларусазнаўстве. Першыя падваліны заклалі калегі з Польшчы Ян Чыквін і Алесь Барскі. Але я мару пра пашырэнне геаграфіі лекторыя: каб лепшыя беларусісты Еўропы, Амерыкі, Канады чыталі лекцыі ў нас. Гэта быў бы смяротны ўдар па абэцэдаршчыне з іх дамарослым прынцыпам, што «мы—не ёсць мы». Гэта было б крушэнне іміджу правінцыйнай Беларусі, а Гародні як правінцыі Беларусі.

**— І, нарэшце, прапаную палетуценіць. Ці магчыма, на ваш погляд, зараз, у постсавецкіх варунках, узгадаваць праўдзіва-беларускую настаўніцкую інтэлігенцыю, эстэтаў-адраджэнцаў, і што дзеля гэтага патрэбна рабіць найперш?**

— За ўсё не скажу. Скажу за тое, што найбольш трывожыць, з чым найчасцей сутыкаюся і што лічу самым галоўным, —пра школу.

За 30 год школа змянілася непазнавальна. Тыя, хто ў 60-я гг. вызначаў духоўную атмасферу школы, мяккія і добрыя інтэлігенты «адлігі», сёння амаль не вызначаюць школьнае аблічча. На змену ім у 70-я гг. прыйшла своеасаблівая кагорта хваткіх настаўнікаў; добрыя арганізатары і някепскія прадметнікі, яны не неслі ў сабе шарм духоўнасці сваіх папярэднікаў. Ім жа на змену заступае «страчанае пакаленне», якое не мае ні першага, ні другога, ні трэцяга. Я не хацеў бы, каб гэта ўспрымалася «облыжным» абвінавачваннем, але ў масе сваёй гэта так.

У школу трэба вярнуць асобу духоўную, і ўсе нашы разважанні можна якраз і разглядаць як летуценне на гэты конт.

**— Дзякуй за гутарку. І — плёну Вам!**

Бягуць-прабягаюць нашыя нялёгкія, трывожныя дні, але ўсё яшчэ свежыя ў памяці ўражанні, звязаныя з удзелам у сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА, з наведаннем Парыжа, «паэтамі апетага ад муроў да стрэх», поўнага жыцця, грунтоўна абжытага, утульнага, днём засяроджана-заклапочанага справай, вечарам па-святочнаму ўзрушанага, яркага, залітага агнямі; Парыжа, адначасова новага (недарэмна лічыцца заканадаўцам розных модаў) і, што называецца, авеянага вякамі, старога, умудронага гістарычным вопытам...

Было ў нашай паездцы, нашым знаёмстве з Парыжам і гэтае самае далучэнне да гісторыі, да мінулага, свайго роду рытуальная, мемарыяльная частка. У свой час задумвалася паэма пра саратніка Кастуся Каліноўскага, аднаго са стваральнікаў і аўтараў «Мужыцкай праўды», адважнага важака касінераў Валерыя Урублеўскага, і вельмі хацелася наведаць яго магілу. Але... І вось у першы наш выхадны, у нядзелю, паехалі на могілкі Пер-Лашэз. Могілкі велічэзныя, здаецца, адны з самых вялікіх і старых у Парыжы, але параўнаўча хутка знайшлі магілу. Надмагільны помнік нядрэнна захаваўся. Паклалі кветкі, прачыталі надпіс, памаўчалі... Дарэчы, недалёка ад магілы Урублеўскага пахаваны Арагон і Элюар і гераіня майго верша... Эдзіт Піяф... У наступную нядзелю наведалі — гэта ўжо за Парыжам — могілкі Сен-Жэнеўеў (Святой Яўгеніі). Іх называюць рускімі, яны сапраўды з'яўляюцца своеасаблівым пантэонам славутых рускіх — ад Буніна да нядаўна памёршых Някрасава і Таркоўскага. Але на надмагільных камянях мы прачыталі нямала беларускіх прозвішчаў: Ватацы, Ягела, Шайкевіч. На адным помніку прачыталі: «Палачане — палкоўнік Сяргей Сяргеевіч Дзямчынскі, капітан Г. Усціновіч».

Ну а потым мы ўшаноўвалі памяць і паэзію Максіма Багдановіча. Я маю на ўвазе хвалюючы, памятны для ўсіх нас вечар, які адбыўся 30 кастрычніка ў штаб-кватэры ЮНЕСКА на пл. Фантэнуа, 7, і быў прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння нашага паэта. Трэба аддаць належнае нашай рэспубліканскай камісіі ЮНЕСКА і супрацоўнікам нашага пастаяннага прадстаўніцтва пры ёй В. Калбасіну і А. Лапцёнку: імі было ўсё і своечасова зроблена для таго, каб такая ўрачыстасць у Доме ЮНЕСКА адбылася і адбылася менавіта пад час сесіі Генеральнай канферэнцыі. Загадзя былі заказаны зала, афіша, запрашальны білет, напярэдадні вечара ў «Журнале Генеральнай канферэнцыі» тройчы друкавалася адпаведная абвестка. Быў зроблены пераклад на французскую мову суправаджальнага тэксту да фільма, прысвечанага старонкам жыцця і творчасці Багдановіча. Усё гэта было зроблена, размеркавалі ролі (хто што з членаў дэлегацыі будзе рабіць), але ў прызначаны час — вечар прызначаўся на 18.30 па парыжскаму часу—усё ж непакоіліся: ці збяруцца людзі, ці не будзе пуставаць зала? Ведалі, што на вялікіх міжнародных форумах так званыя культурныя мерапрыемствы асаблівай папулярнасцю не карыстаюцца, дэлегаты больш ахвотна ходзяць на прыёмы. Але наша трывога на гэты раз была дарэмнай. Прыйшлі амаль цэлымі дэлегацыямі балгары, палякі, украінцы, прыйшлі французы, прыйшлі прадстаўнікі саюзнай дэлегацыі, прыйшлі мінчане, якія ў якасці праграмных спецыялістаў працуюць у сакратарыяце ЮНЕСКА, сабраліся запрошаныя таксама намі суайчыннікі, якія жывуць у Францыі, — мастак Барыс Забораў з жонкай, журналісткай Ірынай, былая супрацоўніца музея, у дзявоцтве Алена Баравікова, зараз Элен Мане з прыехаўшай да яе ў госці стрыечнай сястрой Вольгай, жонка і дачка бізнесмена, беларуса па паходжанні Лявона Шыманца.

Ад імя генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Федэрыка Майора вечар адкрываў кіраўнік аддзела інфармацыі грамадскасці, швейцарац Алэн Маду. Ён нагадаў, што рашэнне аб святкаванні стагоддзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча было аднадушна прынята выканаўчым камітэтам ЮНЕСКА ў адпаведнасці з «кіруючым прынцыпам святкавання гадавін вялікіх людзей і гістарычных падзей», які быў зацверджаны Генеральнай канферэнцыяй ЮНЕСКА на яе дваццаць чацвёртай сесіі, адзначыў «важнасць падзеі для Дома ЮНЕСКА, што адкрыты для ўзаемаўзбагачальнага культурнага і інтэлектуальнага абмену паміж краінамі і народамі». Потым перадаў слова мне. Павітаўшы прысутных, я папярэдзіў, што хачу выступіць на мове вершаў юбіляра, па-беларуску і што сінхронны пераклад на французскую зробіць сакратар нашага пастаяннага прадстаўніцтва Алег Лапцёнак, і пачаў сваё выступленне з таго, што працытаваў, для «настройкі», верш Багдановіча «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...» Зала адпаведна зрэагавала, настроілася на лірычна-філасофскі лад. Адной з вызначальных асаблівасцей творчай і грамадзянскай дзейнасці Максіма Багдановіча, сказаў я далей, было тое, што будучы паэтам глыбока нацыянальным, будучы гарачым прыхільнікам і песняром нашага адраджэння, паэт у той жа час не аддзяляў маладую беларускую літаратуру ад літаратуры суседніх народаў, літаратуры сусветнай, у прыватнасці французскай, гаварыў пра «скарбніцу светавой культуры». Яго з поўным правам можна аднесці да ліку тых, хто з'яўляюцца папярэднікамі (я ўжыў рускае слова «предтеча») і прадказальнікамі ЮНЕСКА з яе высакароднымі, гуманнымі ідэаламі, да тых дыскусій, якія ідуць сёння ў яе залах і лейтматывам якіх гучыць заклік да ўзаемаразумення і духоўнага збліжэння, да творчага і інтэлектуальнага супрацоўніцтва паміж людзьмі і народамі. У заключэнне я падзяліўся яшчэ адным назіраннем: верш Багдановіча «Пагоня», якая абвешчана нацыянальным гербам, з'яўляецца яркім пацвярджэннем таго факта, што нацыянальная самасвядомасць і мастацкая творчасць, у больш шырокім сэнсе — культура, узаемазвязаны, што цесна звязаны паміж сабой культура і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт.

Пасля са сцэны гучалі вершы Максіма Багдановіча. Барыс Сачанка чытаў іх у арыгінале, а французская актрыса Жанна Габэй — у перакладзе на французскую мову.

Урачыстасць, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча, атрымала станоўчы рэзананс. Назаўтра яго ўдзельнікі падыходзілі да нас і дзякавалі, гаварылі добрыя словы. Вечару быў прысвечаны чарговы нумар «Юнеска-прэс», пра яго напісала парыжская газета «Русская мысль».

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**
Парыж — Мінск.

# ЮНЕСКА—як адна з надзей свету

**Выступленне кіраўніка дэлегацыі Рэспублікі Беларусь ВЯРЦІНСКАГА А. І. на пленарным пасяджэнні 26-ай сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА**

Пан Старшыня, пан Старшыня Выканаўчага савета, пан Генеральны дырэктар, паважаныя дэлегаты, што прыбылі на гэты форум не толькі па волі сваіх краін і ўрадаў, але і па закліку ўласнага сэрца, — з высакароднай місіяй — увасабляць у жыццё высокія прынцыпы і ідэалы ЮНЕСКА! Спадарыні і спадары! Беларуская дэлегацыя, пан Старшыня, ахвотна далучаецца да тых віншаванняў, якія прагучалі ў сувязі з выбраннем Вас на гэты наколькі высокі, настолькі адказны пост, і выказвае Вам свой давер і гатоўнасць актыўна супрацоўнічаць з Вамі.

Мы сардэчна віншуем з уступленнем у ЮНЕСКА прадстаўнікоў Літвы, Латвіі і Эстоніі — краін, з якімі нас звязваюць даўнія добрасуседскія адносіны, векавыя эканамічныя, культурныя, духоўныя сувязі. Цяпер яны, гэтыя сувязі, спадзяёмся, атрымаюць новае вымярэнне ў рамках міжнароднага супрацоўніцтва пад эгідай ЮНЕСКА. Дарэчы, нас не могуць, напрыклад, не зацікавіць ініцыятывы, з якімі пазнаёміў нас на гэтай сесіі паважаны прадстаўнік Польшчы прафесар Ежы Клачоўскі, у прыватнасці яго ідэя выдання Атласа сацыёрэлігійнай гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Гаворачы аб уступленні ў ЮНЕСКА прыбалтыйскіх рэспублік, мы, у гэтай сувязі, звяртаем увагу на той факт, што і другія былыя саюзныя рэспублікі, якія абвясцілі сябе суверэннымі дзяржавамі, маюць намер выступаць у якасці паўнапраўных суб'ектаў міжнароднага інтэлектуальнага і культурнага супрацоўніцтва. ЮНЕСКА павінна быць гатова тут да адпаведных рашэнняў. Тым больш, што гэта будзе спрыяць вырашэнню праблемы яе універсальнасці.

Пан Старшыня, усяго два гады аддзяляюць нас ад папярэдняй сесіі Генеральнай канферэнцыі. Час, аднак, настолькі фарсіраваў свой бег, настолькі ўшчыльніўся, што мы маем права сцвярджаць пра нараджэнне, фактычна, новага свету, які сфарміраваўся за гэтае, па гістарычных мерках, адно імгненне. Свежы, калі не сказаць: ураганны, вецер сацыяльных змен закрануў і маю Рэспубліку. З 19-га верасня яна называецца Рэспублікай Беларусь. З гэтага дня над будынкам яе Вярхоўнага Савета, які прыняў адпаведныя заканадаўчыя акты, развяваецца іншы, больш адпавядаючы нашай нацыянальна - гістарычнай рэчаіснасці, бел-чырвона-белы сцяг. Ён вось ужо некалькі дзён, з дня адкрыцця сесіі, развяваецца побач з іншымі нацыянальнымі штандарамі ля будынка нашай Арганізацыі, ён знаходзіцца ў гэтай зале. Рэспубліка ўступіла на новы шлях, уступіла ў новую паласу свайго развіцця—посттаталітарную, постіндустрыяльную, постчарнобыльскую.

Вызначальнай асаблівасцю працэсаў, якія адбываюцца сёння ў грамадскім жыцці маёй Рэспублікі, з'яўляецца тое, што яны носяць двухадзіны характар. Працэс суверэнізацыі, адраджэння дзяржаўнасці супадае з працэсам нацыянальна-культурнага адраджэння народа, адраджэння яго мовы, яго гістарычнай памяці, яго этнасвядомасці, яго менталітэту. Зрэшты, у дачыненні мовы будзе дакладней сказаць, што мяняецца яе грамадзянскі статус. Яна падвяргалася ганенням, асіміляцыі, але не памірала, жыла ў народзе і адыгрывала сваю ролю ў захаванні этнічнай самабытнасці нацыі, яе духоўнай культуры, у стварэнні фальклорных скарбаў, нацыянальнай літаратуры. У сучасны момант беларуская мова аднаўляецца ў сваіх правах як дзяржаўная, як мова, на якой ужо колькі стагоддзяў назад быў створаны адзін з першых у духоўнай гісторыі чалавецтва звод заканадаўчых актаў, славуты шэдэўр прававой думкі—Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года.

Гэта знайшло адлюстраванне ў Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце, якая была прынята 27 ліпеня 1990 года і якой 25 жніўня гэтага года нададзены статус канстытуцыйнага закона. У артыкуле 9-ым Дэкларацыі гаворыцца: «Рэспубліка Беларусь самастойная ў вырашэнні пытанняў культурнага і духоўнага развіцця беларускай нацыі, іншых нацыянальных супольнасцяў рэспублікі, у стварэнні ўласнай сістэмы інфармацыі, адукацыі і выхавання. Рэспубліка Беларусь забяспечвае функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, захаванне нацыянальных традыцый і гістарычнай сімволікі».

Але справа, як мы разумеем, не толькі ў дэкларацыях і вонкавых атрыбутах самастойнасці. І думаю, што на гэтым паважаным форуме будзе дарэчы сказаць аб змястоўным напаўненні суверэнізацыі, аб яе заканадаўча - прававым забеспячэнні. А больш дакладна — аб рэформе ў галіне культуры і адукацыі. Літаральна ў апошнія месяцы наш парламент, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, членам якога я з'яўляюся, прыняў у першым чытанні два важныя заканадаўчыя акты — Закон аб асновах заканадаўства аб культуры і Закон аб адукацыі. (Далей прамоўца спыніўся на асноўных палажэннях названых законаў, праінфармаваў прадстаўнікоў дзяржаў — членаў ЮНЕСКА аб характары рэформы ў галіне нацыянальнай культуры і адукацыі. — **Рэд.**).

Адкрыццё вечара М. Багдановіча ў ЮНЕСКА. Злева направа: А. ВЯРЦІНСКІ, дырэктар Бюро інфармацыі грамадскасці ЮНЕСКА А. МАДУ і сакратар пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі пры ЮНЕСКА А. ЛАПЦЕНАК.

У гэтай сувязі дадам яшчэ, што ў камісіях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь падрыхтаваны праекты законаў аб свабодзе друку, аб свабодзе слова і інфармацыі, аб свабодзе культурнага развіцця нацыянальных і этнічных груп на тэрыторыі рэспублікі. Канцэптуальныя палажэнні адзначаных законаў і законапраектаў знайшлі адлюстраванне ў тэксце новай канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, праца над якой у асноўным завершана на пачатку гэтага месяца.

Паважаны пан Старшыня, паважаныя дэлегаты, спадарыні і спадары, у нашым роздуме ўслых і ў нашых дыскусіях, прысвечаных становішчу і лёсу нацыянальных культур, іх месцу ў сусветнай цывілізацыі, не-не ды і прагучыць скептычная нотка: «А ці трэба рабіць акцэнт на паняццях «нацыя», «нацыянальнае»? Ці не ўшчамляюцца гэтым правы чалавека, суверэнітэт асобы, індывідуума?» І тут я хацеў бы спаслацца на аўтарытэт чалавека, які сказаў больш за семдзесят год прарочыя словы пра тое, што «свет уступае ў перыяд працяглага няшчасця і вялікіх узрушэнняў, але вялікія каштоўнасці павінны быць пранесены праз усе выпрабаванні». Я маю на ўвазе выдатнага рускага філосафа Мікалая Бярдзяева, які, эмігрыраваўшы пасля кастрычніцкай рэвалюцыі, шмат разважаў і пісаў тут, у Парыжы, пра лёс Расіі, пра яе нацыянальны дух, яе культуру. Ён, у прыватнасці, пісаў, што «чалавек уваходзіць у чалавецтва праз нацыянальную індывідуальнасць, як нацыянальны чалавек, а не адцягнуты чалавек, як рускі, француз, немец ці англічанін». «Чалавек, — пісаў філосаф, — не можа пераскочыць праз цэлую ступень быцця, ад гэтага ён абяднеў бы і апусцеў бы... Можна жадаць братэрства і яднання рускіх, французаў, англічан, немцаў і ўсіх народаў зямлі, але нельга жадаць, каб з твару зямлі зніклі выявы нацыянальных воблікаў, нацыянальных духоўных тыпаў і культур. Такая мара пра чалавека і чалавецтва, абстрагаваных ад усяго нацыянальнага, ёсць прага пагашэння цэлага свету каштоўнасцей і багаццяў. Культура ніколі не была і ніколі не будзе адцягнута-чалавечай, яна заўсёды канкрэтна-чалавечая, г. зн. нацыянальная, індывідуальна - народная і толькі ў такой сваёй якасці ўзыходзячая да агульначалавечнасці... Усё творчае ў культуры носіць на сабе адзнаку нацыянальнага генія».

Мне здаецца, цяжка не пагадзіцца з гэтымі мудрымі, глыбока вынашанымі словамі.

Пан Старшыня, пра які б аспект дзейнасці ЮНЕСКА ні заходзіла размова — пра ахову культурнай і прыроднай спадчыны, пра адукацыю, пра інфармацыю ў галіне правоў чалавека, пра садзеянне дэмакратычным пераўтварэнням у краінах Усходняй Еўропы, пра захаванне акаляючага асяроддзя, не кажучы ўжо пра праграму «ЮНЕСКА — Чарнобыль», пра які б аспект, пра які б кірунак, пра якую б праграму ні ішла размова, усё гэта тычыцца нас, беларусаў, Рэспублікі Беларусь. І мы — з нашымі нялёгкімі надзённымі клопатамі, з нашым імкненнем у свой новы заўтрашні дзень, з нашай успрымальнасцю да ўсяго, што робіцца ў свеце, з нашай талерантнасцю, — мы за самае актыўнае, за самае разнастайнае супрацоўніцтва ў рамках ЮНЕСКА. Мы — за ЮНЕСКА. Мы лічым яе адной з надзей свету.

Гарманічнае ўзаемадзеянне ЮНЕСКА з шырокімі, арганізаванымі па прафесійным прынцыпе інтэлектуальнымі сіламі ўсіх краін свету набывае асаблівыя сэнс і значэнне ў сучасны момант, калі невымерна ўзрос аўтарытэт кампетэнтных рэкамендацый вучоных, дзеячаў адукацыі і культуры. Унікальнае значэнне ЮНЕСКА ў сістэме ААН заключаецца ў разумным узаемадапаўненні тэорыі і практыкі, даследаванняў і канкрэтнай дапамогі той або іншай краіне, інтэлектуальнага і навукова-тэхнічнага садзеяння з яе боку дзяржавам-членам у вырашэнні праблем глабальнага, рэгіянальнага і лакальнага характару. Тое, што адукацыя, навука, культура і інфармацыя не існуюць у ізаляваным выглядзе, што яны інтэгрыраваны ў палітычныя, сацыяльныя і эканамічныя пра-

(Працяг на стар. 14).

# ЮНЕСКА — як адна з надзей свету

(Пачатак на стар. 13).

цэсы і праблемы грамадства, пацвердзілася з усёй відавочнасцю пад час жнівеньскіх падзей у нашай краіне.

Пан Старшыня, вядома, практычная дзейнасць ЮНЕСКА грашыць яшчэ, на жаль, істотнымі недахопамі. Інакш не ставілася б пытанне пра рэформы. Праблем сапраўды шмат. Мы ўсё яшчэ скарачаем «на маршы» мерапрыемствы, якія былі зацверджаны на Генеральнай канферэнцыі, але якія потым аказаліся, на паверку, не такімі ўжо важнымі і неабходнымі, каб без іх нельга было абысціся. Па-ранейшаму большая частка бюджэтных сродкаў Арганізацыі ідзе на персанал і фінансаванне службаў, часам толькі ўскосным чынам звязаных з рэальнай праграмнай дзейнасцю. Справядлівае і збалансаванае геаграфічнае размеркаванне пастоў так і застаецца нерэалізаванай мэтай. Таму мы падтрымліваем ідэю заснавання групы экспертаў па фінансавых і адміністрацыйных пытаннях і гатовы ўдзельнічаць у яе працы.

Пан Старшыня, спадарыні і спадары, адзначаныя недахопы, вядома, не прымяншаюць заслуг і вартасцей ЮНЕСКА, каштоўны ўклад якой у наладжванне і развіццё шматстаронняга супрацоўніцтва дзяржаў у галінах адукацыі, навукі, культуры і камунікацыі бясспрэчныя. Мы вітаем дзейнасць Арганізацыі, накіраваную на станаўленне і развіццё такіх інтэрнацыянальных механізмаў і інстытутаў, якія забяспечваюць аптымальныя суадносіны нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў з інтарэсамі агульначалавечымі.

Нельга не падтрымаць Генеральнага дырэктара ў яго імкненні садзейнічаць усімі даступнымі ЮНЕСКА сродкамі вырашэнню тых праблем, з якімі сутыкаюцца сёння краіны Усходняй Еўропы, у тым ліку і мая Рэспубліка, і пра якія пераканаўча гаварыў нядаўна з гэтай трыбуны прадстаўнік Францыі пан Жаспэн. Гэта і апераджальная падрыхтоўка кадраў, і прызнанне эквівалентнасці дыпломаў, і падключэнне да сусветных сістэм банкаў звестак, і перагрупіроўка шэрагу праектаў такім чынам, каб яны ў найбольш поўнай меры адпавядалі вырашэнню новых праблем. Гэта і чарнобыльская катастрофа, якая нядаўна зноў напомніла пра сябе. Характэрна, што ўсе эксперты адзіныя ў меркаванні, што праграма «ЮНЕСКА—Чарнобыль» у выніку яе паспяховай рэалізацыі паслужыць мадэллю для пошуку вырашэння і многіх іншых глабальных праблем.

На гэтай сесіі наша дэлегацыя сумесна з дэлегацыямі Савецкага Саюза і Украіны ўносіць праект рэзалюцыі нумар 96, якая адносіцца да чарнобыльскай праграмы. І мы спадзяёмся на падтрымку гэтай рэзалюцыі краінамі - членамі Арганізацыі і заклікаем іх стаць яе сааўтарамі.

Пан Старшыня, паважаныя дэлегаты, Фёдар Дастаеўскі, «малая радзіма» якога вёска Дастоева знаходзіцца недалёка ад нашага горада Пінска, сказаў словы, якія, здаецца, маюць самае непасрэднае дачыненне да высакароднай, гуманнай дзейнасці ЮНЕСКА. Ён сказаў: «Красота спасет мир». Пра неабходнасць хараства для жыцця, для выратавання свету і душы чалавека пісаў у сваіх творах і наш цудоўны паэт Максім Багдановіч, стагоддзе з дня нараджэння якога мы будзем скора адзначаць, у тым ліку і тут, у штаб-кватэры ЮНЕСКА. Падзелім жа сёння, перад новымі выклікамі часу веру нашых выдатных папярэднікаў у прыгажосць, у розум, у годнасць чалавека, а гэта значыць — і ў тую справу, дзеля якой мы сабраліся на гэты форум.

# ДОЙЛІД БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ

## *7. Інтэлігенцыя — адраджэнскіх ідэй генератар*

Самую вялікую — і зусім справядліва — надзею на нацыянальна - культурнае Адраджэнне беларускага народа Максім Багдановіч ускладаў на яго інтэлігенцыю. Ён моцна перажываў, што нямала таленавітых прадстаўнікоў яе адрывалася ад сваёй Бацькаўшчыны, жыве інтарэсамі іншых народаў, аддае ўсе сілы і здольнасці на карысць чужой культуры і навукі. Патрэбен быў час — і даволі працяглы, — каб інтэлігенты з карэннага насельніцтва нашага краю перасталі лічыць сябе беларусафіламі польскай культуры ці беларусафіламі рускай культуры і пачалі глядзець на сябе, як на зусім самастойную групу інтэлігенцыі пэўнага этнасу, аб'явілі сябе змагарамі за яго нацыянальную культуру без усялякага пасрэдніцтва польскай ці рускай культур.

Першымі такімі беларусафіламі, бясспрэчна, можна назваць студэнцкую моладзь Петраграда, што групавалася вакол часопіса «Гоман». Пазней нацыянальна свядомыя інтэлігенты раслі, як грыбы пасля дажджу. Разам з павелічэннем іх колькасці нязменна назіраліся якасныя зрухі ў далейшым паглыбленні нацыянальнай самасвядомасці беларускай інтэлігенцыі, якая рабіла чоткае размежаванне між тым, што датычыла гісторыі і культуры беларускай, польскай, рускай, украінскай ці якой-небудзь іншай.

У літаратуры шмат азначэнняў дэфініцыі «інтэлігенцыя», але разуменне яе Максімам Багдановічам вельмі набліжанае да характару тагачаснага жыцця на Беларусі. «Гэтым іменем, — пісаў ён, — мы адзначаем свядомых людзей, нясучых сваю свядомасць на карысць простага народа нават і проці ўласнага інтарэсу». Звяртаюць на сябе ўвагу апошнія тры словы, з якіх відаць, што абавязковай умовай заліку ў інтэлігенты Багдановіч прызнаваў гатоўнасць чалавека служыць нацыі, калі гэта нават у чымсьці пагражала яго ўласнаму жыццю і інтарэсу. А тады ж такія пагрозы для шчырага беларуса - інтэлігента ўзнікалі амаль на кожным кроку.

У справе гуртавання беларускай інтэлігенцыі Багдановіч выдзяляў два важныя фактары: французскую буржуазную рэвалюцыю 1789—1794 гадоў і адкрыццё ў 1803 годзе Віленскага універсітэта. Пад уздзеяннем падзей у Францыі ішоў працэс фармавання інтэлігенцыі «нават у многіх даўно ўжо замёршых народаў», яна «пачала жывую працу над развіццём іх культур, ці, іншымі словамі, над іх нацыянальным адраджэннем». Багдановіч са шкадаваннем пісаў, што «ў нас пры надзвычайнай слабасці інтэлігенцыі і пры поўнай неразвітасці яе беларускіх нацыянальных пачуванняў... усё абмежылася некалькімі крокамі, ды і тыя былі зроблены толькі дзякуючы дзе-якім асаблівым умовам тагачаснага жыцця». Не ведаю, як каму, а мне страшна становіцца, калі падумаю, што мо і цяпер сучасная беларуская інтэлігенцыя зробіць толькі нязначныя крокі па нацыянальна-культурным Адраджэнні свайго краю, далёка не выкарыстае тых магчымасцяў, якія дала і нашаму народу перабудова.

Багдановіч меў рацыю, калі пісаў, што інтэлігентныя людзі ў нас найбольш вылучаюцца са спольшчанай старасвецкай шляхты, у якой збудзілася «пачуццё грамадзяніна, пачуццё любві да роднай старонкі» якраз у пару гарачага змагання «маскалёў з палякамі» за ажыццяўленне сваіх інтарэсаў на беларускай зямлі. За шчырую любоў археолагаў, гісторыкаў і этнографаў Віленскага універсітэта да сваёй айчыннай Беларусі ён нават строга не асуджваў іх, што яны, накшталт тагачаснай польскай інтэлігенцыі, «лічылі Беларусь польскім краем, дый думалі, што, развіваючыся, беларусы мусяць прыстаць да польскай культуры, і рана ці позна, а саллюцца-такі з польскім народам». Паэт цаніў гэтых вучоных перш за ўсё за тое, што «яны, гаворачы аб нашым краі... памагалі выпрацоўванню пачаткаў нацыянальна - беларускага самапачуцця між краёвай інтэлігенцыяй, а такжа і лепшаму пазнанню беларускай мовы».

Сапраўднай кузняй беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі Багдановіч слушна лічыў беларускую газету «Наша Ніва», увогуле беларускае друкаванне слова. Калі раней культурны пласт насельніцтва Беларусі складаўся з агульнаімперскіх адходаў, польскіх нацыяналістаў і яўрэйскай буржуазіі, што «былі ў яго масе іншароднымі целамі», дык вакол «Нашай Нівы» згуртаваліся асобы, якія «выраслі ў народзе, ад народа не адарваліся, ім вядомы народныя патрэбы і народныя язвы, блізка псіхіка народа; яны ведаюць народ, і народ ведае іх, — ведае і верыць ім». З такімі людзьмі можна было весці плённую асветніцка-культурную работу ў масах. Невыпадкова «Наша Ніва», пісаў Багдановіч, «прабіла сабе дарогу ў самыя глухія куткі Беларусі, у самыя цёмныя пласты насельніцтва. Для многіх тысяч людзей яна з'явілася першай газетай, прачытанай імі, першай крыніцай ведаў, якая не насіла казённага адбітку, выкладзеная простай і яснай мовай... У беларускім краі, змардаваным нацыянальнай барацьбой, «Наша Ніва» нястомна нагадвала пра неабходнасць паважаць правы кожнага народа, шанаваць усялякую культуру і, замацоўваючы свае нацыянальныя асновы, шырока карыстацца набыткамі культуры як польскай, так і вялікарускай і ўкраінскай».

Мы цяпер вельмі многа прайграём, што не маем блізкага па накіраванасці матэрыялу перыядычнага выдання, як «Наша Ніва», у якой масаваму чытачу падавалася б ва ўсёй сваёй шматстайнасці грунтоўная навуковая інфармацыя па важнейшых праблемах нацыянальна - культурнага Адраджэння. А такіх жа праблем у нас процьма: датычаць яны стварэння і ўмацавання нацыянальных асноў эканомікі; напаўнення адпаведным зместам нашай пакуль што яшчэ фармальнай дзяржаўнай суверэннасці; узвядзення трывалага падмурка пад культурнае жыццё; яго далейшага развіцця з улікам нацыянальных духоўных традыцый і характару беларускага народа; рэальнага забеспячэння яго роднай мове статуса дзяржаўнай. У рэалізацыі зазначаных праблем мы пакуль што робім першыя і занадта ж нясмелыя крокі, што зусім не дае падстаў усур'ёз гаварыць пра нашае сучаснае Адраджэнне.

Глыбока асэнсаваць значэнне, знайсці правільныя шляхі рэалізацыі гэтых праблем, павесці за сабой увесь беларускі народ на іх вырашэнне змогуць толькі высока эрудзіраваныя, сапраўды інтэлігентныя, з поўным наборам элементаў нацыянальнай самасвядомасці асобы. Тады і пра іх можна будзе сказаць словамі, якімі Багдановіч характарызаваў беларускую інтэлігенцыю нашаніўскай пары: «Усё гэта людзі справы, а не слова, людзі, якія з'яўляюцца непарыўнай часткай народа, не перарэзалі злучальнай пупавіны паміж ім і сабой... для якіх толькі адна мова дарагая, блізкая і зразумелая — мова беларуская. ...Абапіраючыся на гэтую інтэлігенцыю, беларускі рух пачынае адчуваць пад сабою трывалы грунт». У нас жа цяпер, на вялікі жаль, занадта мала такой апантанай нацыянальным Адраджэннем інтэлігенцыі і такога грунту, бо асіміляцыя бязлітасна раз'ела і тыя пласты беларускага народа, якія на рубяжы XIX—XX стагоддзяў з'яўляліся зусім нязначна пашкоджаным, а таму даволі моцным асяродкам яго духоўнага жыцця. Прычым ад асіміляцыі найбольшыя страты ў нацыянальным панесла беларуская вёска.

Даводзіцца шчыра пазайздросціць багдановічаўскаму часу датычна лідэраў беларускай нацыі ці блізкіх да такога высокага рангу людзей. І галоўнае, што пераважна ўсе яны былі маладога ўзросту. Больш за шэсць гадоў мінула, як мы, дзякуючы перабудове, перайшлі ад слоў да справы ў галіне нацыянальна - культурнага Адраджэння, але так і не выдзелілі са свайго асяроддзя сапраўднага лідэра. Сёй-той набліжаецца да такога рангу, але ці ўзрост замінае яму сцвердзіцца ў гэтым, ці перашкаджаюць канкурэнты альбо праціўнікі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Тут, відаць, самі беларусы, будучы крэўна зацікаўленымі ў з'яўленні нацыянальнага лідэра, нацыянальнага героя, павінны паклапаціцца і ўсёй грамадой пастарацца адшукаць у сваім асяроддзі з багатым духоўным патэнцыялам Чалавека, які ў стане быў бы вывесці народ з беспрасветнай цемры нацыянальнага нігілізму і беспамылкова паказаць яму шляхі ў сапраўднае, пабудаванае паводле законаў цывілізацыі, царства нацыянальнага жыцця, дзе з небывалай сілай заквітнеюць беларуская культура і мова. Магчыма, я памыляюся, але, мне здаецца, такога Чалавека трэба шукаць і выхоўваць з ліку студэнцкай моладзі ці нядаўніх выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў. З дапамогай кампетэнтных дарадцаў яму падуладна будзе разуменне і вырашэнне нават самых складаных пытанняў нашага Адраджэння. Прычым не будзем забывацца, што тут, апроч тэарэтычнага розуму і практычнага вопыту, многае дасягаецца на грунце эмоцый, уласцівым толькі маладым энтузіязме, адсутнасці ўсялякага страху за свой лёс пры прыняцці смелых і неардынарных рашэнняў. Заўважу, што Багдановіч у нацыянальна-свядомай моладзі бачыў галоўную апору беларускага руху першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя.

Паколькі вырашэнне лёсаносных праблем нацыянальнага адраджэння заўжды, а тым больш на сучасным этапе, у многім прадвызначаецца наяўным інтэлектуальным патэнцыялам народа, трэба быць максімальна ўважлівым да яго прымнажэння. Зрабіць і раней гэта было нялёгка, але яшчэ цяжэй будзе справіцца з данай праблемай тады, калі адкрыюцца дзяржаўныя межы Беларусі і, значыцца, у многіх людзей інтэлектуальнай працы ўзнікне рэальная магчымасць пашукаць сабе шчасця па-за роднай Бацькаўшчынай. Не выключаю, што такі шанц паспрабуюць выкарыстаць і прадстаўнікі нацыянальна самасвядомага пласту беларускай інтэлігенцыі, што адмоўна адаб'ецца на ходзе нашага Адраджэння. Таму, лічу, кожнаму перад тым, як пайсці на такі крок, варта прыслухацца да парады Багдановіча: «...кідаць свой край і ехаць бог ведае куды —гэта ўжо самая апошняя справа, на якую можна адважыцца толькі ў крайнасці».

Справядліва робячы галоўную стаўку на інтэлігенцыю ў вырашэнні задач беларускага нацыянальна - культурнага Адраджэння, Багдановіч між тым не раз выказваў цвёрдую ўпэўненасць, што ў гэтай справе яна не саступіць з пазіцый сапраўднага інтэрнацыяналізму, таму што аснову яе складаюць пераважна выхадцы з працоўных мас, якім вельмі блізкія ідэі дэмакратызму і гуманізму. «Абараняючы інтарэсы свайго народа і кладучы ў аснову гэтай дзейнасці наяўнасць самастойнай беларускай нацыянальнасці і беларускай культуры, беларуская інтэлігенцыя ніколі не ўпадала ў шавінізм, не імкнулася да прымяншэння правоў суседніх нацыянальнасцяў на ўсю паўнату самастойнага культурнага развіцця. У прыватнасці, яна вітае рост як вялікарускай, так і польскай культуры ў краі, дабіваючыся толькі таго, каб гэты рост не меў сваёй асновай дэнацыяналізацыю беларускага народа». Сказана, нібы зыходзячы з патрабаванняў сучаснай культурна-моўнай палітыкі, бо вельмі часта ў нас, асабліва ў пытаннях развіцця на Беларусі рускай культуры, мы менш за ўсё задумваемся над тым, а ці не вядзе гэта з прычыны празмернага распаўсюджвання апошняй да дэнацыяналізацыі яе карэннага насельніцтва? Перабіраць меру ва ўсім — рэч шкодная і небяспечная. Датычыць гэта і ўсяго рускага ў нашым краі.

Багдановіч ніколькі не сумняваўся, што беларуская інтэлігенцыя ва ўсёй сваёй тытанічнай і высакароднай працы па адраджэнні роднага краю знойдзе надзейную падтрымку ў сваіх рускіх калег: «Думаецца, што яна (руская інтэлігенцыя.— **Л. Л.**) можа працягнуць сваю руку беларускай інтэлігенцыі. Яны не чужыя адзін аднаму. Апошняя ж робіць менавіта тое, што складае сэнс існавання ўсялякай інтэлігенцыі: яна развівае народную культуру. Гэтая культура ў краі была нацыянальнай беларускай культурай. Адсюль узнік беларускі народны рух». Вельмі важна, каб і сёння даволі шматлікая на Беларусі руская інтэлігенцыя правільна разумела распачатую карэннымі для данай тэрыторыі нацыянальна - самасвядомымі інтэлектуальнымі сіламі работу па выратаванні блізкага да поўнага духоўнага выраджэння славянскага народа і не стаяла ўбаку, безудзельна сузіраючы за гэтымі працэсамі, а імкнулася і сама ўнесці пасільны ўклад у гэтую вялікай гістарычнай важнасці справу.

Справядліва звязваючы лёс беларускага Адраджэння з інтэлігенцыяй, Багдановіч ніколькі не прыменшваў у гэтым ролі народных мас. Пацвярджаецца такое і зместам яго зусім невялічкага ліста спецыяльна да простых людзей (напісаны ў 1914 ці 1915 гг.) «Хто мы такія?» Каб да нацыянальнага руху схіліць як мага больш такіх людзей незалежна ад іх канфесійнай прыналежнасці, паэт у даным лісце пераканаўча даводзіць, што насельніцтву нашага краю аніяк нельга вызначаць сваю нацыянальнасць толькі паводле рэлігійнай прыкметы. З мэтай дапамагчы простым людзям адчуць сябе гаспадаром на зямлі роднай Бацькаўшчыны, Багдановіч знаёміць іх з найбольш адметнымі старонкамі ўласнай гісторыі, але і не ўтойвае, у якіх цяжкіх умовах у яго час даводзіцца адстойваць беларусам сваё права на існаванне: «Жывём мы паміж палякаў і велікарусаў, народаў моцных, і маем шмат крыўды ад іх. Бо ёсць велікарусы, што намагаюцца, каб мы забыліся

**Леанід ЛЫЧ**

Заканчэнне. Пачатак у №№ 47, 48.

# «Ён быў верным рыцарам бацькаўшчыны...»

## Так пісаў У. Пічэта пра М. Багдановіча

У АПОШНІ час выдадзены цікавыя кнігі аб жыцці і творчасці класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, публікуюцца змястоўныя артыкулы пра яго. Але, на вялікі жаль, у біяграфіі аднаго з самых таленавітых нашых паэтаў яшчэ і сёння нямала «белых плям» і загадак. Адна з іх—тэма «Максім Багдановіч і Уладзімір Пічэта».

Адразу паўстае пытанне: а што, яны былі знаёмыя? Адзін з літаратуразнаўцаў мне прама сказаў: «А вы ведаеце, што розніца ў іх узросце складае аж 13 гадоў?»

Так, ведаю. І ўсё ж такі мне хацелася б унесці яснасць у гэту справу, спыніцца на малавядомых і невядомых старонках такога кароткага жыцця генія беларускай паэзіі.

Крытык і літаратуразнаўца Рыгор Бярозкін у даследаванні «Звенні» дакладна вызначыў разуменне гісторыі Максімам Багдановічам: «Кожная нацыянальная паэзія раней ці пазней ажыццяўляе пераход рамантычна-інтуітыўных «праглядаў» гісторыі, ад пошукаў аналогіі ў мінулым да сапраўды рэалістычнага гістарызму. У беларускай паэзіі гэты пераход звязаны перш-наперш з імем Максіма Багдановіча, аўтара твораў накшталт «Безнадзейнасці».

Я веру, што з цягам часу наша навука папоўніцца глыбокім даследаваннем «Максім Багдановіч як гісторык беларускай культуры», у якім будзе дадзены аб'ектыўны аналіз яго артыкулаў «Беларусы», «Хто мы такія», «На беларускія тэмы», «Беларускае адраджэнне», «Кароткая гісторыя беларускай пісьменнасці да XVI стагоддзя», «Славянскі свет», «Аб гуманізме і неабачлівасці» і іншых работ на гістарычныя тэмы. Максім Багдановіч не толькі чытаў, але і аналізаваў «Беларусаў» і іншыя працы Я. Карскага, «Кароткую гісторыю Беларусі» Власта (В. Ластоўскага), з аўтарам якой ён быў добра знаёмы.

Супрацоўніцтва М. Багдановіча з рэдакцыяй газеты «Наша Ніва» спрыяла паглыбленню інтарэсу паэта да гісторыі Беларусі. Ёсць усе падставы меркаваць, што менавіта з 1911 года паэт зацікавіўся даследаваннямі рускага гісторыка Уладзіміра Пічэты. Хутчэй за ўсё, М. Багдановіч быў добра знаёмы з работамі Пічэты «Літоўска-польскія уніі і адносіны да іх літоўска-рускай шляхты», «Літоўска-руская дзяржава», «Гедымін», «Гістарычны нарыс славянства», «Драма балгарскага народа», «Гістарычны лёс Сербіі» і іншымі, яго рэцэнзіямі на кнігі па гісторыі Заходняй Русі.

І вось у снежні 1915 года 24-гадовы Максім Багдановіч прыязджае ў Маскву, дзе сустракаецца з Уладзімірам Пічэтам.

Вось што ўспамінаў аб гэтай сустрэчы праз сем з паловай год на вечары памяці Максіма Багдановіча сам Уладзімір Іванавіч Пічэта: «У снежні 1915 года ў маёй кватэры зазваніў званок. Я адчыніў дзверы і ўбачыў маладога студэнта. Гэта быў Максім Багдановіч—студэнт Яраслаўскага юрыдычнага ліцэя. Ён звярнуўся да мяне з просьбай аб дапамозе ў вывучэнні гісторыі роднага краю... Ён быў прадстаўніком тых, на сцягу якіх было напісана: адраджэнне нацыянальных культур...»

Калі імя Максіма Багдановіча ведаюць не толькі ў нашай рэспубліцы, але і далёка за яе межамі, то імя Уладзіміра Пічэты вядома значна менш. Таму коратка раскажу аб жыццёвым шляху вучонага. У. І. Пічэта нарадзіўся ў Палтаве. Яго бацька, серб па нацыянальнасці, атрымаў духоўную адукацыю і прысвяціў сябе выкладчыцкай дзейнасці.

З 1888 па 1890 год Іван Хрыстафоравіч Пічэта жыў з сям'ёй у Віцебску, дзе быў рэктарам духоўнай семінарыі. Такім чынам, у дзяцінстве Уладзімір Пічэта непрацяглы час быў на беларускай зямлі.

Пасля сканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Маскоўскага універсітэта У. Пічэта працаваў выкладчыкам у сярэдніх навучальных установах Масквы, Кіеўскай губерні, а потым ізноў Масквы, дзе вёў курс гісторыі ў Практычнай Акадэміі камерцыйных навук. Менавіта ў той час і адбылася яго сустрэча з Максімам Багдановічам.

На жаль, сам М. Багдановіч не пакінуў успамінаў аб сустрэчы з Уладзімірам Пічэтам, аб тым уражанні, якое яна пакінула ў яго душы, які ўплыў аказала на яго гістарычныя погляды і веды.

Яшчэ раней, у ліпені 1914 года, напярэдадні першай сусветнай вайны Максім Багдановіч напісаў артыкул «Беларускае адраджэнне». Гэта работа была надрукавана ў першым і другім нумарах часопіса «Украінскае жыццё» за 1915 год, які выходзіў у той час у Маскве на рускай мове. У 1916 г. яна выйшла асобным выданнем.

Нельга не згадзіцца з М. Ермаловічам, калі ён адзначаў: «Выдатнае веданне гісторыі М. Багдановіч найперш выкарыстоўваў у барацьбе за пасляховае развіццё беларускай культуры, у палеміцы з тымі, хто імкнуўся закрэсліць беларусаў як народ. З аднаго боку, ён змагаўся супраць тых, хто выношваў планы апалячвання беларусаў-католікаў. З другога боку, ён гнеўна бічаваў тых, хто, не ведаючы канкрэтных умоў, браўся «выратоўваць» беларусаў ад паланізацыі русіфікацыяй...»

У сваім артыкуле Максім Багдановіч, тлумачачы тэзіс аб самастойнасці беларускай культуры разважае так: «Бегла і суміруючы факты, якія па сваёй агульнапрызнанасці не з'яўляюцца прадметам спрэчкі, мы пераконваемся, што беларуская культура не з'яўляецца простым варыянтам культуры велікарускай. Наадварот, у іх асобе перад намі знаходзяцца два самастойных культурных комплексы, з самага пачатку растучых і развіваўшыхся незалежна адзін ад другога...»

Прыемна здзіўляе манера доказу Багдановічам свайго пункту погляду. Ён адзначае, што к канцу XIII стагоддзя беларуская народнасць у сваіх асноўных рысах ужо сфарміравалася, апярэдзіўшы ў гэтых адносінах народнасць велікарускую, якая, такім чынам, не магла аказваць уплыў на працэс яе ўзнікнення. М. Багдановіч акцэнтуе ўвагу на тое, што адсутнасць эканамічных сувязей паміж імі, геаграфічныя ўмовы, якія ізалявалі Беларусь ад паўночна-заходніх зямель,—усё гэта пакідала яшчэ менш месца для якога-небудзь узаемадзеяння. Нарэшце, лічыць Максім Адамавіч, у тым жа XIII стагоддзі беларусы і велікарусы падышлі да дзяржаўнага раздарожжа, што яшчэ больш рэзка абасобіла іх. Беларусь цалкам аказалася ў межах Вялікага княства Літоўскага, а велікарускія вобласці згрупаваліся вакол Масквы. З гэтага часу, піша Багдановіч, жыццё абодвух гэтых народаў, роўна як і іх гістарычны лёс, надоўга страчвае ўсякую агульнасць.

Максім Багдановіч імкнецца даць характарыстыку культурнага жыцця на Беларусі ў эпоху Адраджэння. Ён адзначае: «Нядзіўна пагэтаму, што ў эпоху Адраджэння агульны разумовы ўздым, які пачаўся на Захадзе, адбіўся і ў Беларусі. Ключом забіла тут жыццё, ішла, мудрагеліста пераплятаючыся, гарачая рэлігійная, нацыянальная і класавая барацьба, арганізоўваліся брацтвы, быўшыя апорай беларускай народнасці, закладваліся друкарні, засноўваліся школы з нечакана шырокай да таго часу праграмай (у некаторых выкладалася пяць моў), узнікалі вышэйшыя навучальныя ўстановы».

Рэцэнзія Уладзіміра Пічэты на работу Максіма Багдановіча «Беларускае адраджэнне» з'явілася толькі ў 1922 г. Пад назвай «М. Багдановіч як гісторык Беларускага адраджэння» яна была апублікавана ў пятым-шостым нумарах часопіса «Веснік Народнага Камісарыята асветы Беларусі».

Паўстае пытанне: чаму не адразу была напісана рэцэнзія, а толькі праз сем год?



С. ФЕДАРЭНКА. «Далёка ад Радзімы».

Сёння вельмі цяжка адказаць на гэта пытанне. Не трэба забываць, што ў той час ішла першая сусветная вайна, калі друкавацца было не так проста. Затым пайшлі бурныя падзеі 1917 года, грамадзянская вайна...

Можна меркаваць, што работа Пічэты рэктарам Беларускага універсітэта, выкладанне гісторыі Беларусі ў гэтай навучальнай установе аказалі ўплыў на імкненне Уладзіміра Іванавіча паглыблена заняцца вывучэннем гісторыі беларускай культуры. І адной з першых тэм па гэтай праблеме стала вывучэнне творчай спадчыны Максіма Багдановіча, якога Пічэта ведаў асабіста.

У пачатку сваёй рэцэнзіі Уладзімір Пічэта дае высокую ацэнку асобы Багдановіча і яго паэзіі. Ён заўважае: «...Сярод многалічбавай плеяды маладой беларускай інтэлігенцыі, аддаўшай усе свае сілы і здольнасці адраджэнню нацыянальнай культуры роднай краіны, М. Багдановіч займае адно з першых месц».

Адразу трэба адзначыць, што работа У. Пічэты «М. Багдановіч як гісторык Беларускага адраджэння» — гэта не толькі рэцэнзія на вышэйзгаданы артыкул, але і крытычны разгляд шэрагу гістарычных і публіцыстычных работ Багдановіча, а таксама яго паэтычнай творчасці. Аб гэтым сведчаць наступныя словы Уладзіміра Іванавіча: «Максім Багдановіч быў верным рыцарам сваёй абяздоленай бацькаўшчыны, і не толькі адным сваім мастацкім словам: ён выступаў і як публіцыст, які ў сваіх сціслых напісаных артыкулах імкнуўся паказаць гісторыка-культурныя асновы нацыянальна-культурнага адраджэння...».

У заключэнні свайго артыкула Пічэта падкрэслівае: «Нельга не згадзіцца з тым, што асноўныя вехі гэтага працэсу (гісторыі беларускага адраджэння. — Э. І.) прадстаўлены правільна, і будучаму гісторыку прыдзецца з імі лічыцца...»

На падставе глыбокага аналізу работ Максіма Багдановіча па гісторыі беларускай культуры Уладзімір Пічэта прыходзіць да вываду, што, нягледзячы на суб'ектывізм асобных палажэнняў аўтара і нязгоду з імі Уладзіміра Іванавіча, агульны нарыс беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння прадстаўлен паэтам зусім выразна. На думку Пічэты, шчырая абарона М. Багдановічам беларускай культуры апраўдана сучасным жыццём і існаваннем нацыянальнай беларускай культуры.

На пасадзе рэктара БДУ ў 1921—1929-х гадах Уладзімір Іванавіч надаваў вялікую ўвагу прапагандзе беларускай культуры. Прафесар БДУ М. М. Піятуховіч успамінаў: «Вялікую ролю ў прапагандзе беларускай мовы адыгралі праводзіўшыяся па ініцыятыве рэктара У. І. Пічэты ўрачыстыя сходы, якія прысвячаліся асобным паэтам і пісьменнікам (Янку Купале, Якубу Коласу, Максіму Багдановічу і інш.). На сходах рабіліся даклады аб творчасці пісьменнікаў; звычайна на іх збіралася шмат слухачоў; зала не магла ўмясціць усіх жадаючых; даклады праходзілі з вялікім уздымам і мелі велізарнае значэнне». («Беларускі дзяржаўны універсітэт (1921—1927)», Менск. 1927).

У сваёй прамове на вечары памяці Максіма Багдановіча 16 чэрвеня 1923 года рэктар сказаў: «...Ён памёр, не даўшы прастору магутным крылам. Каб Максім Багдановіч жыў цяпер, ён быў бы ў ліку тых беларусаў, якія чытаюць лекцыі на кафедрах БДУ».

У. І. Пічэта перажыў М. Багдановіча на 30 год. Ён стаў выдатным вучоным-гісторыкам, заснавальнікам беларускай савецкай гістарычнай навукі.

**Эмануіл ІОФЕ,**
**дацэнт Мінскага педінстытута імя Горкага,**
**кандыдат гістарычных навук.**




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**
Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар—33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ—33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ—33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ—33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА —33-22-04, аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт —33-24-62; бухгалтэрыя—26-86-40.



Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 18197 экз.